Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 35 (4938) 1 верасня 2017 г.



# У Полацк, са Скарынам



Фота Анатоля Клешчука.

*Сафійскі сабор, сведка станаўлення беларускай дзяржаўнасці.*

## Свята ад «А» да «Я»

Верасень абуджае ВЕДЫ. Не толькі таму, што дзеці зноў сядаюць за парты і выводзяць на школьных дошках сказы пра маму і мір. І пра Радзіму, імя якой западае ў душу разам з імёнамі самых блізкіх і любімых з маленства і застаецца з табой на ўсё жыццё...

Любіць яе лёгка, асабліва калі больш даведваешся пра шлях краіны — з самых першых крокаў па гэтай зямлі нашых продкаў, з першых літар, якія былі прысвечаны ёй і якія складаліся ў кнігі адданымі руплівцамі. Ці не яны адкрылі гэтае вечнае кола: словам вызначаць любоў да зямлі, са слоў даведвацца пра яе больш?

Так і атрымліваецца з тых часоў, калі ў краіне з'явілася традыцыя святкаваць Дзень беларускага пісьменства. Дзень, які дазваляе глыбей разумець Беларусь: вандроўнае свята (ці не дух няўрымслівага полацкага першадрукара штурхае і не дае спыняцца?) адкрывае цікавыя старонкі мінуўшчыны, услаўляючы асоб, якія складалі славу і гонар нашай зямлі, якія дзяліліся сілай асветы з іншымі. Пры нябачнай прысутнасці асобы мы агледзім цяперашні Полацк: чаго яшчэ не ведаем пра горад?

І ў наш час сіла ведаў у многім залежыць ад асоб. Тых, якія вывучаюць і шукаюць, даследуюць і аналізуюць, абгрунтоўваюць і спасцігаюць законы і таямніцы прыроды ды чалавечага жыцця. І тых, якія пішуць і выдаюць кнігі. І ад асоб, якія кіруюць гэтымі працэсамі і ведаюць усе асаблівасці сённяшняй справы пашырэння друкаванага слова. «Што гэта за асаблівасці?» — з такім пытаннем мы звярнуліся да міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч.

Працяг тэмы на стар. 2 ▶

# ...Свята ад «А» да «Я»

**— Чым гэты дзень вылучаецца з шэрагу іншых дзяржаўных свят?**

— Найперш імкненнем ісці да людзей. Ці не гэта адна з традыцый, закладзеных нашымі асветнікамі? Свята істотна пашырыла свае межы. Яно праводзіцца не толькі ў сталіцы, вялікіх гарадах, дзе адбываюцца асноўныя мерапрыемствы. Мы пачыналі з Полацка, праехалі Оршу, Тураў, Камянец, Шклоў, Шчучын, Рагачоў… Гарадоў было шмат і гэта не толькі буйныя цэнтры. Але ўсюды жывуць людзі, і яны адчулі ўзрушэнне, імкнуліся стаць сведкамі самых розных мерапрыемстваў. Акрамя таго, сустрэчы з літаратарамі, навукоўцамі, дзеячамі культуры адбываюцца па ўсёй краіне ў рамках падрыхтоўкі да свята пісьменства. Мэта іх, як і іншых культурных акцый, — далучаць людзей да духоўных каранёў, спрыяць усведамленню сябе сапраўднымі грамадзянамі Беларусі. У Полацка тут асаблівая роля. Гістарычная сталіца прымае свята не першы раз. Але ў гэты горад можна прыязджаць шмат разоў і кожны раз рабіць для сябе нейкае культурнае адкрыццё ці з мінуўшчыны, ці ў сучаснай культуры.

Сёлета, здаецца, узрушэнне ад чаканай сустрэчы ў Полацку пачало адчувацца яшчэ на ўзроўні падрыхтоўкі. Нічога дзіўнага: гораду над Дзвіной спаўняецца 1155 гадоў. Гэта сапраўды святы горад. Тут жылі святыя, падобныя асветніцы Еўрасінні, тут калыска нашай дзяржаўнасці, пра што павінен засведчыць памятны знак, які адкрыем у святочныя дні. Гэта важна не толькі для таго, каб падкрэсліць асаблівы статус Полацка, а наогул для ўсёй нашай сучаснай дзяржавы, якая не ўзнікла на пустым месцы ў адно імгненне, а стала вынікам доўгага шляху, што прайшоў народ, вынікам пакут і ахвяр лепшых яго прадстаўнікоў. Вынікам мар і малітваў тых, хто хацеў бачыць свой край у гармоніі з Сусветам, — гэта і ў наш час робяць падзвіжніцы і насельнікі Полацкага Свята-Еўрасіннеўскага манастыра, які застаецца магутным духоўным цэнтрам не толькі горада і вобласці, але і Беларусі. Бессмяротная Душа нашай нябеснай апякункі Еўрасінні ўзрадуецца ад гукаў малебнаў і вітанняў ад удзельнікаў асаблівай духоўнай місіі «Дарога да Святыняў», што рушыць у Полацк у гэтыя дні: асветніца сама паказала прыклад духоўнага падарожжа. У нейкім сэнсе Дзень пісьменства — такое ж духоўнае падарожжа, толькі па Беларусі.

Гэтае свята ў шэрагу іншых займае асаблівае месца, бо яно аб'ядноўвае ўсіх, хто неабыякавы да роднага слова і разумее яго сілу. Яно мае на мэце прапаганду духоўных здабыткаў нашага народа, найперш мовы і айчыннай літаратуры. Насуперак скептыкам свята стала для многіх любімым.

Для беларусаў слова, веды, пісьменства, духоўныя каштоўнасці заўсёды былі невычэрпнай крыніцай жыццёвага аптымізму. Добрае, жывое слова ў цяжкай сітуацыі чалавека падтрымае і выйсце з розных сітуацый падкажа, ці не так? Нашы продкі ведалі каштоўнасць слова. Нездарма Беларусь дала свету многіх выдатных асветнікаў, літаратараў і навукоўцаў. Многія з іх, дарэчы, зрабілі ўклад у культуру і навуку іншых народаў і лічацца там сваімі выдатнымі дзеячамі.

**— Ці не гэтым тлумачыцца цікавасць замежнікаў да беларускага свята?**

— Сапраўды, да нас у гэтыя дні прыязджаюць дэлегацыі з іншых краін, замежныя дыпламаты, якія працуюць у Беларусі. Сёлета ў Полацку збярэцца шмат замежных гасцей. Чакаем пісьменнікаў, журналістаў, прадстаўнікоў братніх славянскіх краін — Расіі, Украіны, Славакіі. Для суседзяў з Літвы і Польшчы гэтае свята зразумелае: гісторыя нашай пісьмовай культуры развівалася адначасова. Іх прысутнасць на круглым стале «Дыпламатыя слова: Францыск Скарына ў сусветнай гуманітарнай прасторы» ў рамках міжнароднага праекта «Сугучча» будзе для нас гонарам. Але будуць і госці з больш далёкіх краін, якія імкнуцца нас лепш зразумець праз гісторыю і сучасную літаратуру. Чакаем супрацоўнікаў міжнародных структур, прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса. Наша свята ім цікавае таму, што асаблівае па духу.

**— Замежныя госці могуць адчуць гэты дух. А ці могуць яны адчуць смак беларускага слова? Яго цеплыню, мяккасць і пявучасць...**

— Ёсць рэчы, якія не трэба тлумачыць. Усе разумеюць, што значыць кніга, што значыць газета ці часопіс. Але падкрэсліваецца іх значнасць для Беларусі. Мы разам з выдавецтвамі, рэдакцыямі газет і часопісаў, паліграфічнымі прадпрыемствамі імкнёмся як мага больш шырока прадставіць беларускую кнігу і прэсу. Пры гэтым у людзей ёсць магчымасць непасрэднай шчырай гутаркі з выдаўцамі, пісьменнікамі і журналістамі падчас «Фестывалю кнігі і прэсы». Галоўны герой сёлета — безумоўна, кніга. Асаблівая кніга. Таму амаль усе нашы выдавецтвы сёлета падрыхтавалі кнігі, прысвечаныя Францыску Скарыну, — і яны вельмі разнастайныя, для любых узростаў і запытаў. І зроблены гэтыя кнігі часта пры далучэнні і ў супрацоўніцтве з партнёрамі ў замежных краінах.

Да чытача выйдуць не толькі выдаўцы, але і вядучыя айчынныя СМІ, у тым ліку нашы літаратурна-мастацкія выданні. Будзе прадстаўлена прэса Віцебскага рэгіёна, асобная пляцоўка — для 100-гадовага юбіляра, газеты «Полацкі веснік». Гэты фестываль заўсёды цікавы, а тут яшчэ ў людзей ёсць магчымасць паразмаўляць з любімым аўтарам, якога ведаюць па подпісе ў газеце, ці прынесці дамоў на памяць аўтограф знакамітага пісьменніка.



*Лілія Ананіч.*

**— Непакоіць, што сёння жыхары Беларусі лепш ведаюць імёны замежных папулярных аўтараў, чым сваіх пісьменнікаў.**

— Аднак гэтую сітуацыю мы імкнёмся мяняць. Найперш спадзяванне на Нацыянальную літаратурную прэмію, якая была заснавана дзяржавай для таго, каб падкрэсліць: у Беларусі ёсць вартыя творы і добрыя пісьменнікі. За два папярэднія гады гэты конкурс умацаваўся, узняўся ўзровень удзельнікаў у тым ліку з-за большай канкурэнцыі ў канкрэтных намінацыях. Дзеля чаго, уласна, ён і быў задуманы ў такім фармаце: з экспертамі і патрабавальным журы, якое адзначае лепшыя творы і кнігі, актуальныя сёння. Але самае галоўнае, чаму трэба цікавіцца сучаснай беларускай літаратурай і сачыць за навінкамі: як у люстэрку ў іх адбіваецца вобраз грамадства ці проста асобнага чалавека, які жыве, адчувае, думае і шукае адказы ў цяперашнім часе. Таму лёс Нацыянальнай літаратурнай прэміі вызначаецца ў залежнасці ад таго, што актуальна для нашай краіны. Сёлета і ў экспертнай камісіі, і ў журы было шмат работы, лепшых назавуць падчас свята ў Полацку.

Прэмія задумана для таго, каб падкрэсліць аўтарытэт пісьменніцкай і наогул інтэлектуальнай працы: яна насамрэч у нас запатрабаваная. У Беларусі не змяншаюцца колькасныя паказчыкі па найменнях кніг (штогод выдаецца каля 11 тысяч). Так, усё ж ёсць над чым працаваць: хацелася б большых тыражоў кніг, але эканамічна абгрунтаваных. Хацелася б, каб усе нашы кнігі прадаваліся і прыходзілі да людзей. Таму думаем і пра тое, як выхаваць удумлівага чытача, і пра тое, як яго шукаць. Пры ўсіх магчымасцях інтэрнэт-тэхналогій яны пакуль не змаглі цалкам замяніць кнігарні. Сучасная крама не проста прадае кнігі, а дае магчымасць з ёю спачатку пазнаёміцца, уцягнуцца. Пра гэта ў аргкамітэце свята падумалі загадзя: сярод аднаўленых у Полацку аб'ектаў (а іх каля 350, значна больш, чым планавалася першапачаткова) — кніжная крама, дзе прадуманы нават дзіцячы куточак.

Бо галоўны клопат — выхоўваць чытачамі дзяцей. З ініцыятывы нашага міністэрства праходзіць акцыя «Лета з добрай кнігай». Падчас летніх канікул пісьменнікі і выдаўцы выязджаюць на месцы, дзе адпачываюць дзеці, знаёмяць юных чытачоў з цікавымі кнігамі.

Але іх уражвае сама магчымасць убачыць пісьменніка ў рэальным жыцці. На папулярызацыю кніг айчынных аўтараў скіравана акцыя «Сямейнае чытанне», таму што бацькі — лепшы прыклад для дзіцяці. Ды і тое, якую краіну яны пакінуць сваім нашчадкам у спадчыну, не ў малой ступені залежыць ад таго, якія кнігі трымаюць у руках. За кнігамі — імёны нашых пісьменнікаў, у тым ліку класікаў.

**— Каб людзі не забывалі іх слова, ладзіцца конкурс чытальнікаў «Жывая класіка»?**

— Так, ды яшчэ дзеля таго, каб праз класікаў лепш адчувалася сувязь пакаленняў, таму што ёсць творы, якія чытаюць дзеці сёння, але тое ж чыталі іх бацькі ці дзядулі з бабулямі. У кожнага пакалення ёсць сваё адчуванне твораў тых жа юбіляраў Янкі Купалы і Якуба Коласа. З розных адчуванняў складваецца агульнае разуменне значнасці гэтых паэтаў для ўсяго народа, ды і наогул значнасці кнігі. Сёлета ўпершыню пройдзе ўжо ў рэспубліканскім статусе конкурс юных чытальнікаў «Жывая класіка». Дзеці з усёй краіны прыедуць у Полацк чытаць творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Ведаючы, з якой адказнасцю ўдзельнікі рыхтаваліся ды праходзілі папярэднія этапы, разумею: яны чулыя да беларускага слова. Ці не падстава для аптымізму?

Сёлета так супала, што святочныя імпрэзы пачынаюцца якраз у Дзень ведаў. У тым ліку пройдзе маладзёжны форум, прысвечаны Скарыну. Радасна, што наша моладзь нясе творчы патэнцыял, які дае надзею на развіццё беларускай літаратуры наступнымі пакаленнямі. На пачатку гэтага года ўпершыню назвалі імёны пераможцаў конкурсу маладых літаратараў «Першацвет», арганізаванага Міністэрствам інфармацыі. Адметна, што ўзнагародай стала выданне калектыўнага зборніка пераможцаў у «Мастацкай літаратуры». Тых, хто хацеў паўдзельнічаць, аказалася нямала — больш за 150 чалавек. Гэта таксама сведчыць пра тое, што друкаваная кніга — па-ранейшаму дарагі і шыкоўны падарунак, у тым ліку для аўтараў, чые імёны ў ёй ёсць. Упісаць сваё імя ў інтэрнэт-прастору сёння даволі проста, моладзь наогул умела карыстаецца сацыяльнымі сеткамі для прасоўвання. Але гэта не значыць упісаць сваё імя ў гісторыю. А ўсё так жа прэстыжна — быць надрукаваным у кнізе. Чаму? Гэтая тэхналогія, што прынёс нам Францыск Скарына, яшчэ не вычарпала свой рэсурс. І, магчыма, ніколі не вычарпае цалкам: цяпер адкрываюцца новыя яе значэнні і вартасці. Тым відавочней становіцца каштоўнасць — яна не ў рарытэтнасці, якую хочацца дэманстраваць на свята. Яна прывабная сваёй важкай, часам цяжкай (затое адчувальнай) рэалістычнасцю. У свеце, дзе шмат што ілюзорнае і нібыта існуе, а таму лёгка сыходзіць у нябыт, насамрэч застаецца месца для творчага подзвігу стваральнікаў кніг. Яны і друкары, і літаратары, і мастакі адначасова, таму што імкнуцца зрабіць прыгожа і якасна. Усё ў лепшых традыцыях доктара Скарыны, які ведаў толк у інавацыях на стагоддзі, але карыстаўся імі не для сябе асабіста, а меў мэту — палепшыць жыццё сваіх землякоў, даўшы глебу для роздуму.

**Падрыхтавала Ларыса ЦІМОШЫК**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**



*Фота Анатоля Клешчука.*

*Спаса-Еўрасіннеўскі стаўрапігіяльны жаночы манастыр г. Полацка.*

## ВЕДАЦЬ КАРАНІ

Вялікая ўвага СМІ да Дня беларускага пісьменства — знак таго, што дзяржава дбайна клапоціцца пра развіццё нацыянальнай духоўнасці, культуры, кнігавыдання і ў цэлым пра ўсё тое, што робіць нас беларусамі, умацоўвае наш сённяшні дзень і працуе на далёкую перспектыву. Такую думку выказала міністр інфармацыі Лілія Ананіч падчас прэс-канферэнцыі, якая адбылася напярэдадні свята.

— Гэта даказвае і праца Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Васілём Жарко. У склад камітэта ўваходзяць прадстаўнікі амаль усіх органаў дзяржаўнага кіравання, — зазначыла міністр. — Наведваючы ў складзе аргкамітэта Полацк, я злавіла сябе на думцы, што варта часцей бываць у старажытных гарадах краіны з багатай гісторыяй і развітой духоўнасцю, каб ведаць, адкуль нашы карані.



# АДМЕТНЫЯ ДНІ

Сёлетняе свята беларускага пісьменства ўнікальнае найперш сваім трыадзінствам. Яно ўвабрала ў сябе адразу тры святы. 1 верасня — Дзень ведаў, які, вядома ж, не абыдзецца без удзелу літаратараў, прадстаўнікоў пісьменніцкага саюза; 2 верасня — 1155-годдзе Полацка, юбілей калыскі не толькі беларускага кнігадрукавання, але і беларускай дзяржаўнасці; 2 і 3 верасня — непасрэдна Дзень беларускага пісьменства.

Хаця чаму дзень? Дні! Дні пісьменства! І нават не два, як заяўлена афіцыйна, а ўсе тры, пачынаючы з першай вераснёвай раніцы. Гэта ўдзел пісьменнікаў ва ўрачыстай лінейцы ў цэнтры Полацка і ў сотнях і сотнях навучальных устаноў краіны. А яшчэ ўдзел у іншых маштабных мерапрыемствах, якія непасрэдна складаюць агульную архітэктоніку трохдзённага свята яго вялікасці Слова. Гэта і «Скарынаўская алімпіяда», і праекты «З глыбіні стагоддзяў…», «З мінулага ў будучыню», «Слава і гонар зямлі беларускай», «Дзённае святло — ёсць слова кніжнае» ды шматлікія іншыя, і мноства тэатральных дзей… Такім чынам, трыадзінства свята пацвярджаецца шматкроць. І гэта правільна. Падзея заслугоўвае такой шырокай увагі да яе і такой, з дазвалення сказаць, пампезнасці ў найлепшым сэнсе гэтага слова, панарамнасці ў рэалізацыі найлепшых памкненняў і фантазій рэжысёраў мерапрыемства.

Ёсць надзея на тое, што з гэтага часу ўсе наступныя фэсты з нагоды чарговых Дзён пісьменства будуць называцца не ў адзіночным ліку (дзень), а ў множным (дні).

Запрашаю ўсіх беларусаў і гасцей нашай краіны, якія прыхільна ставяцца да нашых традыцый, літаратуры, культуры, у славуты Полацк, у калыску беларускай дзяржаўнасці.

**Мікалай ЧАРГІНЕЦ,**
**старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі**



Фота Анатоля Клешчука.

Помнік прападобнай Ефрасінні Полацкай.



# Бібліятэчка для сучаснікаў

Святочны настрой у Саюзе пісьменнікаў панаваў усё лета. І нагода для гэтага — Полацк, загадкавы і таямнічы, дзе ў першыя вераснёвыя дні адзначаецца 500-годдзе айчыннага кнігадрукавання. Пісьменнікі рыхтавалі свае новыя творы, каб яшчэ раз пацвердзіць важнасць скарынаўскай справы, яе непераўзыдзенае сучаснае гучанне. Пра гэта сведчыць і праведзены СПБ конкурс «Душой Скарыны ўзлашчанае слова», які з'яднаў вакол сябе самых розных творцаў. Дарэчы, у Полацку адбудзецца прэзентацыя аўдыёдыска, дзе галасамі знакамітых акцёраў — заслужанай артысткі Тамары Апіёк-Мікалаевай, артысткі літаратурнага тэатра «Слова» ўладальніцы медаля Францыска Скарыны Зінаіды Феакціставай-Каладзяжнай, акцёра і рэжысёра Нацыянальнай Белтэлерадыёкампаніі Алега Вінярскага — агучаны лепшыя творы ўдзельнікаў конкурсу.

У сёлетнюю сталіцу Дня беларускага пісьменства з'едзецца больш за сто літаратараў з усёй Беларусі. Да іх далучацца і замежныя пісьменнікі — прадстаўнікі адзінаццаці краін свету, на міжнародным круглым стале яны выкажуць сваю пашану беларусам, якія маюць такую старадаўнюю культурную спадчыну, і раскажуць пра шляхі развіцця пісьменства ў сваіх краінах. Замежныя і беларускія пісьменнікі прымуць сумесны ўдзел у адкрыцці фотавыставы «Пісьменнік і час» фотамайстра Міхаіла Крыжаноўскага. Выстава ладзіцца ў гарадской бібліятэцы Полацка.

Слова пісьменніка абудзіць і першы вераснёвы ранак. Сёлета прыкметнай акалічнасцю ў Полацку будзе тое, што ва ўрачыстай лінейцы, прысвечанай Дню ведаў, «Мы ганаровае імя Скарыны нясём» разам з фіналістамі рэспубліканскага творчага конкурсу «Жывая класіка» выступяць вядомыя майстры слова Міхась Пазнякоў, Навум Гальпяровіч. Пасля гэтага ў вандроўку па святочным горадзе дзяцей запросіць Ганаровы грамадзянін Полацка Навум Гальпяровіч.

Фінал конкурсу «Жывая класіка», які пройдзе ў Полацкім гарадскім палацы культуры 2 верасня, абяцае быць цікавым і захапляльным. Больш за 13 тысяч школьнікаў прынялі ўдзел у творчым спаборніцтве. Дарэчы, аднаму з чытальнікаў СПБ падрыхтаваў спецыяльны прыз. Акрамя таго, пераможцаў конкурсу Міністэрства адукацыі заахвоціць пуцёўкамі ў аздараўленчы дзіцячы цэнтр «Зубраня». Тэлеканал «Сталічнае тэлебачанне» плануе прадставіць тэлеверсію гэтага праекта ў эфіры 3 верасня.

Святочная нядзеля ў Полацку для Саюза пісьменнікаў Беларусі абяцае быць насычанай: на галоўнай пляцоўцы пачнецца цырымонія ўганаравання лаўрэатаў Нацыянальнай літаратурнай прэміі. Дарэчы, менавіта падчас гэтай урачыстасці старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец уручыць кіраўніцтву Полацка бібліятэчку, складзеную з твораў сучасных беларускіх аўтараў.

Саюз пісьменнікаў Беларусі таксама рады прадставіць літаратурна-музычную праграму «Як на свет нарадзіўся Янка» па матывах рок-оперы «Курган».

Творчую эстафету на галоўнай сцэне падхопіць цэлае сузор'е беларускіх паэтаў, членаў пісьменніцкага саюза. Да іх далучацца і сябры СПБ — артысты, музыканты. Напрыклад, Таццяна Атрошанка рыхтуе прэм'еру песні «Родны дом». З новымі песеннымі кампазіцыямі выйдзе на сцэну і Кастусь Цыбульскі. Літаратурна-музычная кампазіцыя «Пісьменнікі — землякам» стане яшчэ адным своеасаблівым падарункам палачанам і гасцям свята ад пісьменніцкай супольнасці.

У выхадныя ў прывабным месцы — ля гарадскога фантана — на працягу ўсяго дня будзе працаваць творчая пляцоўка «Слова пісьменніка». Свае забаўляльна-пазнавальныя праграмы рыхтуе кожнае аддзяленне СПБ. Сярод найбольш актыўных выступоўцаў вядомыя літаратары Мікола Чарняўскі, Уладзімір Мазго, Анатоль Зэкаў, Таццяна Дземідовіч, Тамара Краснова-Гусачэнка, Анатоль Аўруцін, Маргарыта Латышкевіч, Валянціна Паліканіна, Мікола Шабовіч, Іван Юркін і іншыя. Падчас аўтограф-сесій пісьменнікаў можна будзе набыць кнігі ды пагаварыць пра жыццё з мудрымі і добрымі людзьмі.

Актыўнымі ўдзельнікамі Дня беларускага пісьменства стануць пісьменнікі Віцебшчыны.

**Алена СТЭЛЬМАХ, першы намеснік**
**старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі**

## Віктар ШНІП

## КНІГА

*напачатку было Слова*
*і Слова стала Кнігай*
*як раніца становіцца днём*
*як крыніца становіцца*
*ракой*
*і цячэ па белым свеце*
*у якім жыве Слова*
*якое стане Кнігай*
*і ты чытаеш Кнігу*
*і Слова душу напаўняе*
*як сонца наш свет*
*дзе Кніга — гэта святло*
*у якім наша мінулае*
*сённяшні дзень і будучыня*
*у якой будзе Кніга*
*як сцяжына як дарога*
*да Веры Надзеі Кахання*
*да белага Храма*
*дзе жыве Любоў*
*Кніга — гэта люстэрка*
*дзе кожны бачыць сябе*
*галоўным героем*
*Кніга — гэта паветра*
*якім дыхае душа*
*Кніга — гэта агонь*
*якім саграецца сэрца*
*Кніга — гэта неба*
*у якім жыве натхненне*
*Кніга — гэта каўчэг*
*які плыве да зямлі*
*дзе чакае радасць*
*Кніга — гэта планета*
*на якой існуе жыццё*
*створанае намі*
*і ты любіш Кнігу*
*і ты сябруеш з Кнігай*
*дзе ніткамі сказаў*
*мы прышыты да вечнасці*
*у якой жыве Слова*
*як сонца*
*якое не заходзіць*



# ПРЫСВЯЧЭННЕ СЛОВУ

Ад мінулага Дня беларускага пісьменства да сёлетняга свята творцамі Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі напісана і выдадзена больш за 40 кніг. Найбольш яркімі з іх можна назваць абласны літаратурны альманах «Дзвіна», шостае выданне, у якім на 550 старонках прадстаўлены творы ўжо вядомых аўтараў і новыя імёны. Сямёра з іх — ужо знаёмыя па кнігах літаратары, што жывуць у горадзе на Дзвіне і Полацкім раёне. Яркімі кнігамі года можна назваць тыя, што намініруюцца ў 2017 годзе на Нацыянальную літаратурную прэмію: зборнік вершаў Алеся Жыгунова «У храме радасці і смутку», «Каменяцвет не вяне» Антона Параскевіна.

Карыстаюцца попытам у чытача творы пісьменнікаў Віцебшчыны, якія пішуць для дзяцей, — Сяргея і Галіны Трафімавых: выдавецтва «Народная асвета» выпусціла кнігі тыражом 1000 экзэмпляраў. «Аршанскі буквар», шостае дапоўненае выданне, наогул выйшла тыражом 2000 экзэмпляраў. Таксама выдадзены ў сталічных выдавецтвах на камерцыйных умовах кнігі паэзіі Тамары Красновай-Гусачэнка «Жыццё — мая малітва», вершаў для дзяцей «Дзіцячы свет», Канстаніна Нілава «Таямніцы бэзавага яра» і «Ёсць такая любоў», Ганны Зінкевіч «Пяшчота позніх хрызантэм», Віктара Улюценкі (Антона Параскевіна) «Валуны роднай старонкі», кнігі драматургіі Фёдара Палачаніна «Ці так жывем?» і «Галалёд».

Асабліва хочацца адзначыць актыўнасць пісьменнікаў са старажытнага Полацка, якія выдалі кнігі за свой кошт: Мікалай Балдоўскі — кнігу вершаў «Выбранае», Галіна Загурская — зборнік паэзіі «У месяцовым перламутры», Надзея Салодкая — кнігу вершаў і эсэ «Спавядайся, восень...»

Актыўнымі пісьменнікамі нашага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі (сярод якіх Мікалай Наменнікаў, Марына Бабарыка, Вольга Русілка, Кацярына Сосна, Тамара Талкачова, Пётр Буганаў, Уладзімір Крайнеў, Алена Фядзяева) праведзена больш за 315 творчых прэзентацый, вечароў, сустрэч з чытачамі вобласці. Мы правялі два гарадскія літаратурныя конкурсы для моладзі, актыўна ўдзельнічалі ў рэспубліканскіх літаратурных конкурсах і фестывалях. Яркую прэзентацыю прадставілі пісьменнікі на Міжнародным літаратурным фестывалі «Цэнтр Еўропы», што адбыўся ў Полацку ў чэрвені. Актыўна ўдзельнічалі ў Міжнародным фестывалі духоўнай паэзіі і музыкі «Адзігітрыя», што праходзіць у Віцебску. Кампазітар Аляксандр Іваноў да 15-х угодкаў фестывалю напісаў яго гімн на словы Тамары Красновай-Гусачэнка, які прагучаў на больш чым пяцітысячную аўдыторыю падчас гала-канцэрта «Славянскага базару». Праведзены намі фестываль паэзіі і музыкі «Песні сунічных бароў» у Лёзна стаў сёлета міжнародным: удзельнічалі паэты і кампазітары з Беларусі, Расіі і Украіны.

Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства пісьменнікі Полацка і Віцебскай вобласці правядуць вялікую літаратурную прэзентацыю з аўтограф-сесіяй на галоўнай літаратурнай пляцоўцы «Слова пісьменніка», што будзе працаваць на плошчы Францыска Скарыны 3 жніўня, а таксама прадставяць свае творы на пляцоўках «Цэнтр Еўропы» 2 і 3 жніўня. Ва ўсіх названых і іншых мерапрыемствах святкавання Дня беларускага пісьменства ў Полацку актыўны ўдзел возьмуць пісьменнікі Віцебшчыны і Полацка. Таму што гэтае свята, прысвечанае Слову, — самая важная веха, якая накіроўвае творчую працу кожнага чалавека, які піша. Не можа не пісаць мастацкія творы, напоўненыя любоўю да роднай зямлі, да людзей працы, пісьменнік, жыццё якога прасякнута любоўю да Айчыны.

**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА,**
**старшыня Віцебскага абласнога**
**аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Невыведныя шляхі



Фота Кастуся Дробава.

*«Малая падарожная кніжка» Францыска Скарыны (1522 г., Вільня) з калекцыі «Белгазпрамбанка» будзе выстаўлена ў Полацку.*

**Герой года, безумоўна... Пра жыццё Скарыны напісаны дзясяткі кніг і тысячы артыкулаў на розных мовах. Недасведчанаму чытачу, які адкрыў багаты бібліяграфічны спіс, прысвечаны Скарыніяне, можа здацца, што пра жыццё і дзейнасць беларускага першадрукара мы ведаем калі не ўсё, то вельмі многае. Аднак гэтае ўражанне падманлівае…**

### Дзе і калі нарадзіўся Францыск Скарына?

Доктар Францыск Скарына ўдзячны за сваё з'яўленне на свет слаўнай Полацкай зямлі ды сям'і купца Лукі Скарыны. Месца нараджэння ніколі не выклікала сумненняў, у адрозненне ад даты, якая з'яўляецца прадметам шматлікіх спрэчак.

Цікаўныя могуць задацца лагічным пытаннем: дык адкуль жа бярэцца агульнапрынятая дата «каля 1490 года», калі крыніцы адсутнічаюць? Датаванне нараджэння беларускага друкара заснавана на двух дакументах: запісах аб прыёме ў Кракаўскі ўніверсітэт і акце Падуанскага ўніверсітэта. У той час большасць юнакоў пачыналі навучанне ў Кракаўскім універсітэце ва ўзросце 14 гадоў, таму Францыск, які паступіў у 1504 годзе, павінен быў нарадзіцца не пазней за 1490 год. Вядома, сустракаліся выключэнні, магнаты зрэдку фармальна залічалі сваіх дзяцей ва ўніверсітэт, тады ў альбоме рабілася пазнака, што яны не прыносяць прысягу.

Ці мог Скарына паступіць ва ўніверсітэт у 20 гадоў? Вядома, мог. У Кракаўскі ўніверсітэт паступалі юнакі не толькі ў 20 гадоў, але і ўжо дарослыя мужчыны ва ўзросце 30 гадоў. Аднак гэтая гіпотэза не ўзгадняецца з іншым фактам у біяграфіі Скарыны: у 1512 г. у актах Падуанскага ўніверсітэта запісаны юнак Францыск Скарына. Улічваючы ўзроставыя крытэрыі таго часу, вельмі складана было б назваць Скарыну юнаком, пераносячы дату нараджэння нават на 5 гадоў раней. Такім чынам, мы атрымліваем дату нараджэння «каля 1490 года».

Аднак гэта была не адзіная спроба вызначыць час нараджэння беларускага першадрукара. Гісторыкі спрабавалі даведацца ўзрост Скарыны на падставе партрэта, змешчанага ў Пражскім выданні Біблії. Аднак методыка ніякага выніку не прынесла. Даследчыкі разышліся ў поглядах амаль на 20 гадоў (ад 27 да 45)!

### У сценах Кракаўскага ўніверсітэта

«Францыск, сын Луки с Плоцка (Полоцка)» — так гучаць храналагічна першыя вядомыя радкі пра першадрукара, выведзеныя рукой няўважлівага пісара, які адправіў слаўнага літвіна ў цэнтр Польшчы замест беларускага Полацка. У іматрыкуляцыях Кракаўскага ўніверсітэта ў 1504 г. мы ўпершыню сустракаемся са Скарынам на старонках пісьмовых дакументаў. Яны распавядаюць пра тое, што будучы першадрукар быў залічаны на факультэт вольных навук, дзе ён мусіў вывучаць асновы акадэмічнай мудрасці — трывіум і квадрывіум.

У наступны раз са Скарынам мы сустрэнемся толькі праз два гады — 13 снежня 1506 г. У гэты дзень малады літвін вытрымаў экзамен на ступень бакалаўра. Гэтыя два гады паміж запісамі прайшлі ва ўпартай працы. Вывучэнне граматыкі і дыялектыкі Арыстоцеля, грэчаскай і лацінскай моў. Магчыма, у Кракаве, дзе вучыўся стваральнік геліяцэнтрычнай сістэмы свету Ёган Капернік, Скарына палюбіў астраномію. Тут жа ён мог упершыню пабачыць працу друкарскага станка ў друкарні Яна Галера, якая адкрылася за год да паступлення літвіна ва ўніверсітэт. Крыніцы не падаюць падрабязнасцей пра жыццё кожнага студэнта. Так і не дайшлі да нас звесткі пра штудыі Скарыны, але, рэканструючы сістэму адукацыі і побыт, можна выказаць здагадку, як працякала жыццё Скарыны.

### Чым займаўся Скарына пасля заканчэння ўніверсітэта?

Біяграфія Скарыны паміж 1507 і 1512 гг. укладваецца ў адзін радок, запісаны ў пратаколе падуанскай курыі 9 лістапада 1512 г. У гэты дзень *«viri domini magistri Francisci, quodam domini Lucae Scorina de Poloczko Rutheni, secretarii regis Datiae»* здаваў асабісты іспыт па медыцыне. З апошніх трох слоў становіцца вядома, што Францыск Скарына нейкі час выконваў функцыі сакратара караля Даніі. Або Дакіі? Некаторыя даследчыкі меркавалі, што гаворка магла ісці аб Валахіі, аднак гісторыкамі было пераканаўча даказана, што пад *Datiae* ва ўніверсітэцкіх колах разумелі менавіта скандынаўскую краіну.

Пасля заканчэння Кракаўскага ўніверсітэта новай сустрэчы з першадрукаром у пісьмовых крыніцах прыйшлося чакаць амаль 6 гадоў. Яна адбылася 5 лістапада 1512 г. У гэты дзень малады літвін звярнуўся да калегіі дактароў з просьбай здаць іспыт бясплатна. Просьба Францыска была задаволена, а праз тры дні ў прысутнасці калегіі і жыхароў Падуі Скарына бліскуча вытрымаў іспыт па медыцыне.

Біяграфія Скарыны паміж іспытам у Падуі і выданнем першай кнігі ў Празе — самы цьмяны перыяд. Беларускаму першадрукару трэба было падрыхтаваць тэкст, замовіць шрыфты, знайсці друкарню, вырашыць, дзе друкаваць кнігі: у Кракаве, Празе, Венецыі або на радзіме. На той час друкарскае абсталяванне каштавала нятанна, а значыць, трэба яшчэ было дамагчыся фінансавай падтрымкі заможных людзей…

Дзе Скарыне прасцей за ўсё было знайсці сродкі на выданне кірылічных кніг, як не ў ВКЛ? Верагодна, на радзіме ён заручаецца падтрымкай беларускіх купцоў і членаў віленскага магістрата, а магчыма, нават самога караля Жыгімонта I, як мяркуюць некаторыя даследчыкі. У Вільні ён мог сустрэць Багдана Онкава, які актыўна гандляваў з Прагай сукном і мог параіць друкару сталіцу Чэшскага каралеўства.

### «Повелел есми тиснути»

У 1517 г. у Празе пабачыла свет «Бивлия руска, выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцька». Нешматлікія звесткі, якія захаваліся на старонках Біблії, дазволілі гісторыкам зрабіць выснову, што Скарына кіраваў друкарняй. У прадмовах згадваецца, што ён «повелел тиснути».

А ці былі іншыя варыянты, акрамя Прагі, у друкара? Магчыма, Скарына быў бы рады адкрыць першую друкарню на радзіме, аднак у ВКЛ не было падобнага вопыту. Іншая справа — Кракаў, у якім працавалі ўжо тры друкарні: Яна Галера, Каспера Хохфедэру і Гераніма Віетора. Аднак Францыск планаваў друкаваць кірылічныя кнігі, якія наўрад ці з радасцю сустрэла б духавенства каталіцкага горада. Венецыя, Нюрнберг? Усе гарады маглі прэтэндаваць на месца пачатку ўсходнеславянскага кнігадрукавання. У Нюрнбергу друкавалі кнігі для Чэхіі і Польшчы, а ў Венецыі выраблялі шрыфты для чарнагорскай друкарні Джурджа Црноевіча. У вядомым італьянскім горадзе вучоны Альд Мануцый, заснавальнік фіры Альдаў, друкаваў кнігі для Кракаўскага ўніверсітэта, у якім вучыўся студэнт Францыск з Полацка. Не адставала ад еўрапейскіх цэнтраў і Прага. У 1488 г. тут выйшла першая Біблія на чэшскай мове, а праз год другое выданне ў Кутнай Гары.

### Вяртанне

У 1520—1521 гг. Францыск Скарына пакінуў Прагу і вярнуўся на радзіму — у Вялікае Княства Літоўскае. Навошта было з'язджаць з Прагі, дзе справы ішлі так добра? Зараз мы зноў ступаем на глебу гіпотэз.

Магчыма, беларускі друкар хацеў быць бліжэй да «паспалітага люду» ВКЛ, для якога друкаваў свае кнігі. Альбо страшная чума, што абрынулася на Прагу ў 1520 г., прагнала Скарыну з Чэхіі. А, можа, віленскія і полацкія мецэнаты патрабавалі яго вярнуцца на радзіму?

Па прыездзе Скарына спыніўся ў доме «почтивого мужа Якуба Бабича, наистаршего бурмистра славнаго и великого места виленскаго». У доме бурмістра ён заснаваў і новую друкарню, дзе пачаў працу над наступным выданнем — «Малой падарожнай кніжкай». Дарэчы, інфармацыю аб месцы размяшчэння новай друкарні паведаміў сам першадрукар на адной са старонак «Апостала». Паралельна з выдавецкай дзейнасцю Скарына ўладкаваўся на службу сакратаром да віленскага біскупа Яна.

У 1522 годзе ў Вільні Скарына скончыў працу над «Малой падарожнай кніжкай» — першым друкаваным выданнем на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. А праз тры гады надрукаваў «Апостала», які ўключае «Дзеі апосталаў», «Саборныя пасланні» і «Пасланні Апостала Паўла».

Вільня прынесла Скарыне не толькі новыя здзяйсненні, але і новае каханне — «полымя незнішчальнае, як самая стыхія жыцця». Так паэтычна апісаў шлюб Францыска з Маргарытай беларускі пісьменнік Алег Лойка, хоць крыніцы больш скупыя ў эпітэтах да гэтай пары. Звесткі, якія мы маем, адносяцца да маёмасных спрэчак паміж Маргарытай і Мікалаем, сынам Багдана Чупрына, і Марцінам Субочавічам.

### Жыццё ў дарозе

Калі б Францыск Скарына жыў сёння, яго б назвалі «заўзятым вандроўнікам». Мы пазнаёміліся ўжо з візітамі ў Кракаў і Падую, Капенгаген і Прагу. Аднак на гэтым падарожжы першадрукара не спыніліся. Ледзь абараніўшы маёмасць жонкі, Францыск вымушаны быў адправіцца ў Познань, дзе памёр яго старэйшы брат Іван.

Пасля спраў у Познані можна адпачыць? Наўрад ці Скарына паспеў перавесці дух, як адправіўся ў Кёнігсберг. Г. Галенчанка мяркуе, што Скарына накіраваўся ў Прусію, каб ліквідаваць наступствы чумы, а вядомы чэшскі даследчык А. Флароўскі зазначаў, што палачанін прыехаў, каб наладзіць пратэстанцкае кнігадрукаванне.

### Забыліся на падарожжа ў Маскву?

Паважанаму чытачу не трэба хваляваццa: мы памятаем гіпотэзу пра наведванне першадрукаром Масквы. Аднак устрымаліся ад храналагічнага ўключэння гэтага эпізода ў біяграфію з прычыны беднай базы першакрыніц. Іншыя эпізоды, вядома, таксама не маюць падрабязнасцей, але гіпотэза пра наведванне Масквы яшчэ больш хісткая. Адзіная крыніца, якая дазваляе меркаваць, што Скарына наведваў Маскву, адносіцца да 1552 г. Гэты дакумент — інструкцыя пасланцу Воецеху Крыскаму да папы Юлія II.

### Ці заснаваў сад у Градчанах?

Каля 1536 — 1537 гг. друкар пакідае Вільню і вяртаецца ў Прагу. З другім пражскім перыядам даследчыкі звязваюць дзейнасць Скарыны ў якасці садоўніка ў Градчанах, дзе ён павінен быў закласці адзін з першых батанічных садоў у Еўропе. У крыніцах згадваецца «італьянскі садоўнік Францішак», які ўдзельнічаў у закладцы парку, а пазней, у пасмяротнай грамаце караля Фердынанда, Скарына названы як «наш садоўнік». Я. Неміроўскі спрабаваў растлумачыць азначэнне «італьянскі садоўнік» падуанскай адукацыяй друкара, аднак версія спрэчная.

### Калі памёр Францыск Скарына?

Чытач, які звернецца да электроннай энцыклапедыі «Вікіпедыя», знойдзе на гэтае пытанне неадназначны адказ — каля 1551 года. Але калі вырашыце пашукаць адказ у Вялікай савецкай энцыклапедыі, то сустрэнеце дату «да 1541 года».

Хто ж мае рацыю? Датаванне смерці Скарыны грунтуецца на дзвюх крыніцах: хроніцы Вацлава Гаека і грамаце Фердынанда ад 1552 г. У першай хроніст распавядае пра пажар у Празе ў 1541 г., у якім загінуў падлетак Францішак «сын негды доктора Руса». Прыхільнікі ранняга датавання лічаць, што «доктар Рус» з чэшскай хронікі — гэта менавіта Францыск Скарына. Падаючы малаверагодным той факт, што ў Празе ў той час знаходзіўся яшчэ адзін «рускі» доктар.

Другая версія грунтуецца на акце Фердынанда, у якім ён дазваляе сыну Сімяону прыняць маёмасць бацькі. Таксама ў гэты час прэтэнзіі на маёмасць Скарыны прад'яўляюць віленскія купцы і члены магістрата. Прыхільнікі гэтай гіпотэзы мяркуюць, што акт быў выдадзены неўзабаве пасля смерці друкара.

* * *

Пра доктара Францыска Скарыну са слаўнага горада Полацка захавалася не так і шмат дакладных сведчанняў. Мо дачакаемся яшчэ неверагодных сенсацый?

**Дзяніс ПАРХАЦ**



Фота Анатоля Клешчука.

*Барысаў камень у Полацку. Ці не яго энергіяй сілкаваўся Скарына?*

# ДЗІВОСЫ МУЗЕЙНАГА ГОРАДА



У Музеі беларускага кнігадрукавання.

**Гістарычная спадчына для Полацка мае такую ж значнасць, як для іншых рэгіёнаў прыродныя рэсурсы, радовішча нафты ці алмазаў. Скарбы горада — рухомыя і нерухомыя — сталі асновай для стварэння музеяў.**

**Яшчэ ў XI — XII стст. у Сафійскім саборы і Спасаўскім манастыры пачалі збіраць кнігі і абразы. Умоўна манастырскія скарбы можна назваць калекцыямі музейнага характару. Іх існаванне ў XI — XVIII стст. стала падмуркам, на якім са стварэннем музея ў Полацкім езуіцкім калегіуме пачалося музейнае будаўніцтва ў горадзе.**

**Сёння ў складзе Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка працуе 11 музеяў. На якія з іх трэба звярнуць увагу ў святочныя дні? Зарыентавацца дапамагла Тамара ДЖУМАНТАЕВА, дырэктар Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.**

## 1. МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ АРХІТЭКТУРЫ САФІЙСКАГА САБОРА

Сведкам таго, як Полацк станавіўся калыскай беларускай дзяржаўнасці, быў Сафійскі сабор. Пабудаваны легендарным полацкім князем Усяславам Чарадзеем у сярэдзіне XI ст., храм стаў месцам, дзе знаходзілася кафедра архіепіскапа, заключаліся палітычныя і гандлёвыя дамовы, захоўваўся княжацкі скарб, ствараліся полацкія летапісы і перапісваліся кнігі, збераглася бібліятэка, а падчас вайны маглі схавацца ад ворагаў жыхары Полацка. Першая мураваная пабудова на тэрыторыі сучаснай Беларусі — Сафійскі сабор паклаў пачатак не толькі каменнаму будаўніцтву, але і своеасаблівай полацкай школе архітэктуры.

Да сённяшніх дзён захаваліся сведкі падзей часоў Полацкага княства: падмурак, алтарная апсіда, фрагменты старажытнай муроўкі і фрэскавага роспісу, сінтон (каменная лава для святароў) і крыжападобныя слупы, якія некалі падзялялі прастору храма на пяць нефаў. Усё гэта, а таксама прадметы, знойдзеныя падчас архітэктурна-археалагічных даследаванняў, якія праводзіліся ў саборы ў 1969 — 1980 гг., можна ўбачыць у экспазіцыі музея.

Адной з самых цікавых знаходак з'яўляецца камень-вапняк з надрапанымі на ім у сярэдзіне XI ст. імёнамі: «Давыд, Тума, Микула, Копесь, Пётр, Воришко». Магчыма, свае аўтографы пакінулі ўдзельнікі будаўніцтва храма ці назіральнікі?..

У вітрынах дэманструюцца: плінфа XI ст. з насечкамі, літарамі, лічбамі, рознымі знакамі і сімваламі, уключаючы трызубец Рурыкавічаў; фрагмент шаўковага пакрывала з вышыўкай залатымі ніткамі з жаночага пахавання XVI ст. Сярод экспанатаў ёсць прадметы, знойдзеныя падчас раскопак Верхняга замка: залаты віты пярсцёнак XI ст., прывезены ў Полацк з далёкага скандынаўскага Готланда, і віслая пячатка кіеўскага князя Усевалада Яраславіча (1078 — 1093).

На мяжы XV — XVI стагоддзяў Сафійскі сабор быў перабудаваны ў храм абарончага тыпу. З 1596 г. праваслаўная Сафія перайшла да ўніятаў і заставалася ўніяцкай да 1839 года. На гэты перыяд прыпадае апошняя перабудова сабора, што адбылася ў 1728 — 1750 гг. Разбураны ў 1710 г. выбухам парахавога склада, сабор захаваў падмурак і сцены на вышыню 8 і 12 метраў, якія былі ўключаны ў склад новага будынка, узведзенага Янам Крыштафам Глаўбіцам.

Аўтарам праекта рэстаўрацыі Сафійскага сабора, пачатай у 1969 г., стаў беларускі архітэктар Валерый Рыгоравіч Слюнчанка. Музейная экспазіцыя пачала працаваць у 1987 г. Дзякуючы ўнікальнай акустыцы, у 1983 г. у Сафійскім саборы была адкрыта зала камернай музыкі. У 1985 г. у зале сабора загучала велічная арганная музыка.

## 2. КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ

Размяшчаецца ў былой Лютэранскай кірсе, помніку архітэктуры неаготыкі, пабудаванай у 1888 г. Музей заснаваны і адкрыты ў 1926 г.

У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы археалагічнага даследавання адной з мезалітычных стаянак (Сямёнаў хутар). Гэта разнастайныя крамянёвыя прылады працы невялікіх памераў: нажы, скрабкі, наканечнікі стрэл. Экспануюцца тут і выпадкова знойдзеныя прадметы, напрыклад, бівень маманта.

Полацк узнік на востраве ракі Палаты, на месцы паселішча балтаў ранняга жалезнага веку. Упершыню ён узгадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 г. З цягам часу вакол гарадзішча выраслі пасады, а ў другой палове X ст., пасля бітвы з дружынай наўгародскага князя Уладзіміра і спальвання горада, умацаваны дзядзінец быў перанесены на высокі правы бераг ракі Заходняй Дзвіны. У экспазіцыі прадстаўлены вырабы ганчароў, кастарэзаў і іншых рамеснікаў, што сведчыць пра высокі ўзровень майстэрства нашых продкаў. Сведкамі актыўных гандлёвых сувязей сталі такія экспанаты, як ракавіны каўры з Мальдыўскіх астравоў Індыйскага акіяна, шкляныя пацеркі і бранзалеты з Кіева, бурштын з Прыбалтыкі, арабская куфічныя дырхемы.

У пачатку XIV ст. Полацк увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага, а ў 1579 годзе — Рэчы Паспалітай. Матэрыялы экспазіцыі распавядаюць і пра ўдзел палачан у Кулікоўскай і Грунвальскай бітвах, наданне гораду магдэбургскага права, захоп Полацка войскам Івана Грознага падчас Лівонскай вайны, штурм горада войскам Стэфана Баторыя, з'яўленне ў Полацку езуітаў і прадстаўнікоў іншых ордэнаў каталіцкай царквы.

У 1772 г., пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, Полацк увайшоў у склад Расійскай імперыі на правах правінцыяльнага горада Пскоўскай губерні, а праз чатыры гады стаў цэнтрам асобнай Полацкай губерні, якая праз два гады ператварылася ў намесніцтва. У XIX — пачатку XX ст. стаў павятовым горадам, тут з'яўляецца шэраг невялікіх заводаў і фабрык (прадстаўлены ўзоры іх прадукцыі). Да гэтага перыяду адносіцца тэматычная частка экспазіцыі «Сялянскі побыт».

Рэвалюцыйныя падзеі 1905 г., Першая сусветная вайна і акупацыя Полацка ў 1918 г. прадстаўлены ў музеі праз дыярамы, карты-схемы, ваенны рыштунак, зброю, калекцыю баністыкі і ўзнагароды рускіх і нямецкіх афіцэраў і салдат. Працягам аповеду пра гісторыю горада часоў Вялікай Айчыннай вайны з'яўляецца экспазіцыя Музея баявой славы.

## 3. МУЗЕЙ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

Экспазіцыя музея была адкрыта ў былой Брацкай школе, што існавала пры мужчынскім Богаяўленскім манастыры. Сёння гэта адзіны ў краіне музей, які збірае і захоўвае для нашчадкаў помнікі пісьменства (не толькі рукапісы і старадрукі, але і сучасныя выданні).

Музей працуе 25 гадоў, і за гэты невялікі тэрмін супрацоўнікамі сабраны цікавыя калекцыі беларускіх выданняў розных часоў, якія друкаваліся на тэрыторыі Беларусі. Тут ёсць «Евангелле вучыцельнае» 1595 г. віленскай друкарні братоў Мамонічаў, венецыянскае выданне «12 прамоў» Іераніма Фалецкага 1558 г., выданні канца XVIII — пачатку XIX ст. Полацкай езуіцкай друкарні...

Праходзячы праз 15 залаў музея, якія размясціліся на двух паверхах, адчуваеш гонар за нашу кнігу. Тым больш што гісторыя беларускай друкаванай кнігі пачалася ад сына «слаўнага града Полацка» Францыска Скарыны, якому прысвечана адна з самых прыгожых і прасторных залаў музея. А каб адчуць атмасферу, уявіць працэс стварэння старадрукаванай кнігі, вас запрашаюць зайсці ў рэканструяваную друкарню XVII — XVIII стагоддзяў.

Тым, хто хоча даведацца пра стварэнне рукапісных кніг часоў Еўфрасінні Полацкай, будзе цікава зазірнуць у майстэрню перапісчыка — скрыпторый, дзе сур'ёзны манах-перапісчык з пяром у руцэ ўважліва схіліўся над сваім сталом, старанна выводзячы літару за літарай...

У апошняй з залаў узвышаецца велічная скульптура ў вобразе жанчыны з фрэскавым тварам — вобраз роднай мовы — сімвалічная скульптура Паўла Вайніцкага «Прысвячэнне роднаму слову».

## 4. МУЗЕЙ-БІБЛІЯТЭКА СІМЯОНА ПОЛАЦКАГА

У будынку былой Брацкай школы паміж заламі Музея беларускага кнігадрукавання размясціўся музей незвычайны па форме: аб'ядноўвае экспазіцыю з навуковай бібліятэкай і чытальнай залай. Агульнае мастацкае афармленне прасторы адпавядае інтэр'еру заходнееўрапейскай бібліятэкі канца XVII — пачатку XVIII ст.: з драўлянымі кніжнымі шафамі ў два ярусы, гіпсавымі бюстамі філосафаў, вялікім глобусам у цэнтры залы і шматлікімі копіямі рукапісаў і фігурных вершаў Сімяона Полацкага на сценах.

Некалі, яшчэ да пабудовы ў канцы XVIII ст. жылога корпуса былога мужчынскага Богаяўленскага манастыра (дарэчы, па праекце вядомага італьянскага архітэктара Джакома Кварэнгі), тут знаходзілася драўляная школа, у якой выкладаў знакаміты палачанін Сімяон. Экспанаты музея распавядаюць не толькі пра полацкі перыяд яго жыцця, але і пра вучобу ў Кіеве і Вільні, пра ад'езд у Маскву і пра маскоўскі перыяд дзейнасці.

Вялікая ўвага ў экспазіцыі надаецца педагагічнай, літаратурнай і выдавецкай дзейнасці Сімяона Полацкага, тым больш што ў музейных вітрынах знайшлі сабе месца арыгіналы кніг Сімяона, надрукаваныя ў Маскве: «Вечеря душевная» (1683), «Тестамент» (1680), «Жезл правления» (1753). Акрамя гэтага, у экспазіцыі можна пазнаёміцца з рукапісным «Лексіконам» Сімяона, пагартаўшы яго на сэнсарным маніторы інфакіёска.

## 5. МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ

Пастаянная экспазіцыя галерэі была адкрыта 7 верасня 2002 г. у адным з трохпавярховых карпусоў былога езуіцкага калегіума — помніка архітэктуры XVIII ст. З 1788 да 1820 г. тут знаходзіўся музей і карцінная галерэя. Калекцыямі, сабранымі полацкімі езуітамі, сёння могуць ганарыцца музеі, бібліятэкі і ўніверсітэты Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільнюса, Мінска, Польшчы і Ватыкана. Полацк жа, страціўшы каштоўныя калекцыі, захаваў веліч архітэктурнага комплексу і асаблівую аўру, якая натхняла на творчыя здзяйсненні Фёдара Талстога, Рафаэля Слізеня, Валенція Ваньковіча, Каспара Бароўскага і іншых мастакоў — выхаванцаў полацкіх езуітаў.

З рарытэтаў уразяць стэатытавы абразок XI ст. з выявай святых Канстанціна і Алены, крыж-энкалпіён XI ст. са срэбнай інкрустацыяй, унікальныя ўніяцкія абразы XVIII ст., свецкі партрэт Эльжбеты Агінскай, намаляваны адным з мастакоў Полацкага езуіцкага калегіума ў 1760 г.

А вось тое, што немагчыма пабачыць больш нідзе: фрагменты фрэскавага жывапісу полацкіх храмаў XI — XII стст., адслоены і перанесены на пастаянную аснову алейны жывапіс XVIII — XIX стст. Спаса-Праабражэнскага храма, помніка архітэктуры сярэдзіны XII стагоддзя.

Сабраная калекцыя дазваляе ўявіць усе асноўныя перыяды развіцця беларускага мастацтва, а таксама паказаць творы такіх аўтараў, як В. Бялыніцкі-Біруля, Я. Драздовіч і сучасных мастакоў.

**Толькі ў Полацку:**

Гісторыя адной вуліцы ў стацыянарнай выстаўцы «Прагулка па Ніжне-Пакроўскай», унікальны Дзіцячы музей, прыродна-экалагічны музей у былой водаанапорнай вежы, Музей ткацтва беларускага Паазер'я.



У падмурку Сафійскага сабора.



Фота Анатоля Клешчука.

Помнік Сімяону Полацкаму.

# Далёкія і блізкія

## Знакамітыя творцы з адчуваннем радзімы

Манашка і асветніца Ефрасіння Полацкая, друкары Францыск Скарына і Васіль Цяпінскі, пісьменнік-палеміст XVII стагоддзя Анастасій Сялява, паэт-асветнік Сімяон Полацкі… Розныя эпохі абуджалі ў Полацку стваральную энергію, якую неслі потым людзі, дзякуючы якім пісьмовая культура ператваралася ў айчыннае прыгожае пісьменства. А тут шмат асоб і іменаў, якія выбудоўвалі літаратурны працэс і чыя праца была натхнёна старажытным горадам.

Фантастычным, як уся Беларусь, — разумеем дзякуючы Яну Баршчэўскаму, што родам з Полаччыны. І вучыўся ён у Полацкай езуіцкай калегіі, а студэнцкія канікулы праводзіў у вандроўках па ваколіцах возера Няшчарда. Збіраў полацкія паданні, легенды, казкі, якія ўвайшлі ў яго зборнік «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Ён так любіў гэты горад, што апісаў яго і ваколіцы ў нарысе «Полацк».

Між іншым у горадзе існавала інтэлектуальная эліта, нават з'явіўся першы на тэрыторыі сучаснай Беларусі літаратурна-навуковы часопіс «*Miesiecznik Polocki*». Яго заснаваў на пачатку XIX стагоддзя тэолаг, літаратуразнаўца і крытык Вінцэнцій Бучынскі, які атрымаў адукацыю ў Полацкім езуіцкім калегіуме, а потым сам стаў прафесарам філасофіі Полацкай езуіцкай акадэміі, пакуль не з'ехаў у Еўропу.

Але лёс даваў Полацку таленавітых асоб у розны час: святое месца не павінна быць пустым. На мяжы XIX і XX стагоддзяў тут узнікае новае імя ў літаратуры — паэт Янка Журба, які вучыўся ў Полацкай настаўніцкай семінарыі (і вярнуўся сюды напрыканцы жыцця).

Паэтэса Канстанцыя Буйло яшчэ да рэвалюцыі загадвала беларускай кнігарняй у горадзе над Дзвіной, пакуль яе не закрылі. Бываў тут і Янка Купала: у 1916 годзе ён служыў у дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін, жыў у Полацку да восені 1917 года. Тут ён сустракаўся з Паўлінай Мядзёлка. Потым Купала прыехаў сюды ў маі 1926 года, калі імя паэта надалі вопытна-паказальнай школе, якая існавала пры Полацкім педагагічны тэхнікуме. У тыя дні газета «Чырвоная Полаччына» надрукавала «Ліст да палачан» Янкі Купалы.

Акруговая газета «Чырвоная Полаччына» — асобная старонка ў культурным жыцці горада. Так атрымалася, што носьбіт новай ідэалогіі прыцягнуў у горад літаратурную моладзь, якая ішла працаваць у рэдакцыю. Гэта былі творцы новай літаратуры, найперш актыўныя ўдзельнікі полацкага філіяла «Маладняку». Якія ж тут імёны: Алесь Дудар, Андрэй Александровіч, Алесь Звонак, Эдуард Самуйлёнак, Ян Скрыган, Сцяпан Сямашка, Паўлюк Шукайла, Міхась Багун ды яшчэ шмат іншых. У 1925 годзе быў накіраваны на працу ў Полацкі акруговы камітэт ЛКСМБ паэт Пятрусь Броўка. Тут ён папрацаваў адказным сакратаром «Чырвонай Полаччыны», дзе былі надрукаваны яго першыя вершы. Пра той час нагадваюць памятныя дошкі ды назвы вуліц: Петруся Броўкі ці Тараса Хадкевіча, які адлюстраваў будаўніцтва Наваполацка ў рамане «Песня Дзвіны».

А ў гісторыі літаратурнага жыцця горада засталіся з тых часоў адметныя моманты: дзякуючы маладнякоўцам, пабачылі свет альманахі «Наддзвіньне», «Росквіт» і «Зарніцы». Нават пасля знікнення аб'яднання «Маладняк», закладзеныя ім літаратурныя традыцыі жывуць у горадзе.

Напрыклад, газеты працягвалі фарміраваць культурнае асяроддзе і гартаваць творчых асоб, такіх як Алесь Савіцкі: пасля другой сусветнай вайны ён прыехаў у Полацк, працаваў некаторы час у рэдакцыі абласной газеты «Бальшавіцкі сцяг». Пры жыцці быў Ганаровым грамадзянінам Полацка: гэтая зямля так проста не адпускае, яе носіш у сабе, адстойваеш і абараняеш нават у мірны час, як ветэран вайны Пётр Лісіцын, што апісаў Полаччыну партызанкую.

І нават тыя, хто з'ехаў, носяць у сабе ўсе стагоддзі айчыннай мінуўшчыны, што найлепш адчуваюцца тут: ці не таму Уладзімір Арлоў піша такія папулярныя гістарычныя кнігі? Ці Аляксей Дудараў, які родам з Полаччыны, гістарычныя п'есы, што з поспехам ідуць у тэатрах Беларусі не адно дзесяцігоддзе.

Гэтая зямля натхняе паэтаў: у полацкай абласной газеце «Сцяг камунізму» свае першыя вершы таксама надрукаваў Генадзь Бураўкін. А ў рэдакцыі газеты «Хімік» выспяваў Навум Гальпяровіч, паэт, які працягвае творча падтрымліваць родны горад, нягледзячы на тое, што жыве ў Мінску. Ці яшчэ полацкі падыход: жыць там, дзе патрэбны, найперш — на малой радзіме, як празаік Вінцэсь Мудроў, паэт Алесь Аркуш. Тут заявілі пра сябе і сцвердзіліся ў творчасці паэтэсы Галіна Загурская ды Надзея Салодкая. Ды наогул існуе літаратурнае аб'яднанне «Надзвіння», вакол якога групуюцца творчыя сілы Полацка — людзі, якія не могуць не пісаць (хочацца выказацца, і ёсць пра што).

Багатыя мясціны багатыя і на імёны — вось падставы для працы літаратуразнаўцаў, сярод якіх таксама нямала палачан. І гэта толькі частка літаратурнай Віцебшчыны, якая дала Беларусі сапраўдных волатаў слова.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Майстар крыштальнай шчырасці

## Актуальнасць прозы Васіля Быкава ў кантэксце сучаснасці



Васіль Быкаў на беразе Нёмана. 1974 г.

Выключная шчырасць творчай манеры зрабіла яго класікам яшчэ пры жыцці. У ліку славутасцей Віцебшчыны — імя Васіля Быкава, якому сёлета споўнілася б 93 гады.

Васіль Быкаў пачаў пісаць пасля вайны. Разгорнуты адказ на пытанне, што прымусіла ўзяць у рукі пяро, пісьменнік даў журналісту часопіса «Огонёк» Феліксу Мядзведзеву ў маі 1987 г.: «Першае апавяданне я напісаў на Курыльскіх астравах, дзе працягваў службу ў першыя пасляваенныя гады. Я, ды і не толькі я, а многія з франтавікоў нічога пра вайну не чыталі і чытаць не хацелі. Вайна была яшчэ вельмі жывая ў нашай свядомасці. Мы стараліся як мага хутчэй ад яе вызваліцца, спыніць гэтую сувязь з мінулым. Прайшоў пэўны час і я стаў чытаць кнігі пра вайну, напісаныя пісьменнікамі даволі вядомымі, але спыняў сябе на тым, што гэтыя апавяданні пра вайну мяне не задавальняюць. Вось чаму я паспрабаваў з чыста палемічных меркаванняў напісаць сваё першае апавяданне. Мне здавалася, тое, што я чытаў, ніяк не адпавядала майму асабістаму вопыту, неяк усё было не так і не тое. Пасля яшчэ і яшчэ. Вядома ж, яны былі слабымі, кепскімі. Спрабаваў я іх надрукаваць, але з гэтага нічога не выйшла. І на шмат гадоў я закінуў спробы стаць пісьменнікам. У 1955 годзе, дэмабілізаваўшыся, стаў працаваць у газеце, пачаў пісаць прозу і нават апублікаваў першую кнігу апавяданняў. Праўда, гэта былі гумарыстычныя апавяданні. Пасля напісаў некалькі рэчаў на маладзёжную тэму. І толькі ў канцы пяцідзясятых трывала засеў за ваенную тэму» (Паводле «“Трава после нас”. Книга-интервью журналиста Феликса Медведева с деятелями советской литературы и искусства. М., 1988. С. 114).

Адна за адной выходзяць яго аповесці «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Пастка», «Альпійская балада»... Пісьменнік ставіў перад сабой выразную мэту — данесці да чытача праўду пра мінулую вайну. Праўду балючую, успрымаць якую некаторым людзям было вельмі цяжка. Аднойчы ў рэдакцыю таго самага часопіса «Огонёк» прыйшоў ліст ад жанчыны, у якім яна напісала, што не чытае тыя кнігі пра вайну, у якіх героі паміраюць. «Напэўна, аўтару было б больш прыемна напісаць пра добрых людзей, пра добрыя адносіны, каб чытач атрымаў асалоду, — адказваў на гэта В. Быкаў. — Але чаго вартая такая літаратура, асабліва ў наш час? Літаратура, здольная не разбудзіць, а ўсыпіць. А хіба ў гэтым прызначэнне мастацтва?» (Там жа. С. 111).

Героі В. Быкава заўсёды знаходзяцца ў складаных сітуацыях, калі трэба зрабіць выбар, ад якога залежыць жыццё. І не толькі тваё ўласнае. З гэтым цесна судакранаецца праблема здрады, якая часта фігуруе ў творах пісьменніка. Застацца чалавекам і памерці альбо пайсці на здраду і атрымаць шанс (часам прывідны) на жыццё. Як глыбока ён пранікаў у псіхалогію, даследаваў унутраны стан чалавека ў крытычнай сітуацыі. І гэта тычыцца не толькі ваеннай прозы. У 1990-я і апошнія гады жыцця пісьменнік усё часцей закранаў у сваіх творах балючыя праблемы сучаснасці. І градус напружання не памяншаўся. Міжволі кожны чытач задасць сабе пытанне: а што б ты рабіў на месцы таго ці іншага героя, як бы ты сябе паводзіў у тых нечалавечых умовах? Паспрабуйце, напрыклад, паставіць сябе на месца таго ж Чарняка з «Глухога часу начы» ці Валерыя Сарокіна з апавядання «Труба».

Адным з кампанентаў паэтыкі, які дапамагаў В. Быкаву дакладна перадаваць душэўны стан герояў, была няўласна-простая мова. Чытаеш твор Быкава — і пражываеш яго знутры, нібыта ты знаходзішся там, прысутнічаеш пры гэтых падзеях. Гэта таксама адзнака таленту пісьменніка. Трэба ўмець так пабудаваць твор, каб ты сапраўды адчуваў сябе ў ім, быў паглыблены ў яго свет. Далёка не кожнаму майстру гэта ўдаецца.

Чалавек у памежнай сітуацыі, бязвыхаднасць, трывога, праблемы выбару, свабоды — усё гэта адзнакі выразнага экзістэнцыяльнага пачатку ў творчасці В. Быкава. Апавяданні «Жоўты пясочак» і «На Чорных лядах» па сюжэтнай лініі і змесце блізкія да вядомага твора французскага экзістэнцыяліста Ж.-П. Сартра «Сцяна». Магчыма, невыпадкова адно са сваіх апавяданняў В. Быкаў таксама назваў «Сцяна». Сюжэты, ідэйны план тут адрозныя, затое аднолькавае ў творах месца дзеяння (турма).

А вось у апавяданні «Труба» ў цэнтры ўвагі пісьменніка не столькі праблема свабоды выбару, колькі даследаванне самой сутнасці паняцця «свабода». Што такое свабода? Калі і дзе чалавек можа адчуць сябе сапраўды свабодным? Дрэннае надвор'е і позні час вымусілі героя твора Валерыя Сарокіна знайсці часовы прытулак у газавай трубе, адзін стык якой яшчэ заставаўся незавараны. Чалавек заснуў, у гэты час трубу заварылі. Герой апынаецца амаль у бязвыхадным становішчы. Напачатку інстынкт выжывання прымушаў яго шукаць выратавання. Аднак пакрысе прага жыцця саступіла месца здрадлівай абыякавасці: там, наверсе, Валерыя турбавалі шматлікія жыццёвыя праблемы, а тут, пад зямлёй, ён цалкам вызваліўся і адчуў сябе свабодным. Атрымліваецца, толькі пад зямлёй можна знайсці сапраўдную свабоду. А на зямлі ты заўсёды будзеш у няволі. Вось яна — філасофская глыбіня творчасці Быкава.

У 1990-я гады В. Быкаў паступова адыходзіць ад буйной формы і звяртаецца да малых жанраў, у прыватнасці — прыпавесці. Нехта лічыць гэтыя творы занадта палітызаванымі. Але жанр прыпавесці па сваёй прыродзе вельмі глыбокі, філасофскі. Бачыць толькі паверхневы ўзровень і не спрабаваць зазірнуць глыбей — няправільна. Возьмем, напрыклад, прыпавесць «Мурашкі» (прысвечана памяці Уладзіміра Караткевіча). Пэўная гумарыстычная танальнасць не прыглушае выразнае філасофскае гучанне твора. Хто і што такое чалавек, *homo sapiens*? Навошта яму было дадзена жыццё, калі з яго — чалавека — нічога добрага не атрымалася? Калі ён не пабудаваў, а толькі разбурыў і працягвае разбураць? Наколькі актуальна і сумна гучыць гэтая прыпавесць.

Творы В. Быкава вельмі канцэптуальныя (канцэпты і канстанты «вернасць — здрада», «свой — чужы», «жыццё — смерць», «свабода — няволя», «старое — новае» і інш.). У плане паэтыкі тэксты не перагружаны апісаннямі, мова твораў жывая, дыялогі выпісаны па-жыццёваму натуральна.

Гаварыць пра В. Быкава можна бясконца доўга — пра яго адданасць творчай справе, адданасць справе служэння радзіме. Менавіта з імем Васіля Быкава доўгі час стала асацыявалася беларуская літаратура ў міжнароднай, сусветнай прасторы. Выдатна, што гэтая прастора імкліва пашыраецца — новымі імёнамі, арыгінальнымі творчымі праектамі. Тым больш каштоўныя для нас творчыя здабыткі папярэднікаў, на высокі мастацкі і духоўны ўзровень якіх варта арыентавацца.

**Раман ДУБАШЫНСКІ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**вядучы навуковы супрацоўнік БДАМЛМ**

# ДАКЛАДНЫ Ў СЛОВЕ, АДДАНЫ Ў ЖЫЦЦІ

## Лісты Уладзіміра Караткевіча да Вячкі Целеша

Ураджэнец Віцебшчыны Уладзімір Караткевіч — постаць настолькі шматгранная, што яго жыццё можна апісваць самымі рознымі характарыстыкамі. Аднак адметны ён найперш тым, што ўзгадаваў на сваіх творах некалькі беларускамоўных пакаленняў, зацікаўленых нацыянальнай гісторыяй, культурай, літаратурай. Героі раманаў і аповесцей Караткевіча для многіх былі больш рэальнымі, чым суседзі, аднакласнікі-аднакурснікі, калегі… Ён быў не толькі адным з самых актыўных прапагандыстаў беларушчыны, яго нястомная, самаадданая праца па асвятленні праблем захавання гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі заслугоўвае бязмежнай павагі. Клопат пра старажытныя помнікі роднай зямлі — не толькі ў яго мастацкіх і публіцыстычных творах, але і ў лістах да сяброў, прыяцеляў, з якімі У. Караткевіча звязвалі цёплыя стасункі. Сёння мы маем магчымасць пазнаёміць чытачоў «ЛіМа» з лістамі пісьменніка да беларускага мастака, краязнаўца, філакартыста Вячкі Целеша, якія пакуль не друкаваліся ў поўным аб'ёме.

Уладзімір Караткевіч і Вячка Целеш пазнаёміліся ў 1976 годзе ў Доме творчасці пісьменнікаў у Юрмале дзякуючы Сяргею Панізніку. З таго часу кантакты не перапыняліся. У. Каракцевіч не раз падчас паездак у Латвію завітваў у майстэрню мастака, якую называлі «Беларускай хаткай». Вячаслаў Целеш — князь Вячка, як з лёгкай рукі Барадуліна і Караткевіча сталі менаваць яго ў беларускім культурніцкім асяроддзі, — прыехаў у Рыгу ў 1957 годзе 19-гадовым юнаком і жыве там да гэтага часу. У 1994 годзе ён стаў ініцыятарам стварэння першай беларускай школы ў Рызе і сем гадоў пасля быў яе дырэктарам, ён жа спрычыніўся да ўтварэння ў Латвіі Таварыства беларускай культуры «Світанак». Сёння — дацэнт кафедры культуры і мастацтваў Інстытута менеджменту інфармацыйных сістэм.

«Беларуская хатка» Вячкі Целеша цягам доўгіх гадоў прымала шмат знакамітых гасцей, таму памяць мастака, бадай, такая ж багатая, як і яго архіў, які ён часткамі, падчас візітаў у Беларусь, передае ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацва. Зусім нядаўна Вячка Целеш завітаў у нашу сталіцу, каб паўдзельнічаць у Сёмым з'ездзе беларусаў свету, што прайшоў у Мінску 15 — 16 ліпеня. Гэтым разам мастак перадаў у БДАМЛМ лісты і паштоўкі Уладзіміра Караткевіча, дасланыя яму ў 1980-х гадах.

Лісты друкуюцца з захаваннем правапісу і пунктуацыі арыгінала.

Ліст ад 16 сакавіка 1981 года:

*Дарагі Вячаслаў!*

*Доўга пісаць не здолею, прабач. Сам з тэмпературай. Жонка з аперацыяй у клініцы. І так ужо месяц. Так што і не пісаў і не званіў.*

*Экслібрыс знайшоўся між юбілейных лістоў (400), і я яго дасылаю. Ён мне вельмі-вельмі падабаецца, больш за ўсе ранейшыя. І мне шкада яго. Калі магчыма — зрабі і з яго, хаця на літаграфскім камені (а то невядома, новы можа быць й горшы). Я заплачу. Калі не захочаш грашыма, то на тую самую суму кнігамі.*

*А калі немагчыма — вярні мне яго. У мяне тут ёсць такі тоўсты скураны том, гэткая «Чуккокала», дзе пішуць пісьменнікі і крэсляць мастакі. Наклею туды.*

*Жадаю, каб ты заўсёды ішоў след у след за Поспехам. А за табою след у след каб ішлі Слава і Шчасце.*

*Абдымаю цябе.*
*Уладзімір*

Ліст ад 28 верасня 1981 года:

*Дарагі Вячаслаў!*

*Даўно не бачыліся, даўно слова адно-аднаму не сказалі. А я то хварэю, то раз'язджаю па рэспубліцы з "рэвізіяй" помнікаў, каб пасля там дзе трэба (і не трэба) наладзіць невялічкі скандал. Ездзіў у Слонім — жудасць. Касцёл Андрэя ў аварыйным стане, хто возьмецца (і ці возьмецца) рапараваць — невядома; ракаковая капліца таксама дыхае на ладан. Адзінае суцяшэнне з усёй паездкі — касцёл у Ішкальдзе (XVI стагоддзе, ледзь не адзіны чысты ўзор готыкі на Беларусі; Вільні я не бяру). Адрапаравалі, накрылі бляхай, пабялілі бялютка, знеслі іконы (а быў грамадскі сарцір, які вось-вось рухне). Будзе жыць стары, хаця рэстаўрацыя адбывалася без мастакоў, але пакуль і так добра.*

*Днямі еду ў Мсціслаў. Даручылі напісаць кніжку-альбом.*

*Ну, я ім наработаю! Мінімум конскім заводам, максімум — Мсціслаўскай даўніне: каб ведалі ёй цану і берагплі.*

*Хаця, вядома, работа гэтая адарве мяне ад прамых маіх спраў.*

*А як у цябе? Як работаецца? Як сям'я?*

*Твая "Неапалімая купіна" вісіць у жончыным пакоі, побач з Хрыстом (пач. XIX ст). Павесіў бы ў сваім кабінеце, але і там, і ў гасцінай малавата сонца на такую палымяную рэч. А там як упадзе сонца — гарыць яна і ўсё.*

*Прыязджай і не думай аб даху над галавой, у нас месца хопіць.*



Алег Лойка, яго жонка Лілія, Уладзімір Караткевіч, Вячка Целеш і Мірдза Абала ў Латвійскім этнаграфічным музеі ў ліпені 1981 года.

*Цяпер аб справе. Работаць апошнія дні не мог і таму клеіў экслібрысы. Іх у мяне розных ёсць, але твой найбольш настраёвы і найбольш адпавядае майму характару.* (Да 50-годдзя Уладзіміра Караткевіча Вячка Целеш зрабіў экслібрыс: побач са шчытом з выявай «Пагоні» — рыцарскія даспехі, фонам стала выява Гродзенскага замка. — **Г. З.**) *І клеіў я яго на свае кнігі (акрамя лірыкі) і на творы гісторыкаў пра Беларусь і на найлепшыя кнігі аб мастацтве Вялікага княства, і на творы Купалы (у прыватнасці на першае выданне "Жалейкі"). І… не хапіла. Ёсць яшчэ шмат кніг, на якія ён так і просіцца: у прыватнасці на Вальтэр Скота, Ірасека, на дакладна капіяваныя (ну, дакладна паўтараюць першадрук) выданні Кахахоўскага. Нязручна мне цыганіць, браце, але хацелася-б вытрымаць марку да канца. Ці нельга зрабіць яшчэ хаця-б сотню копій (калі нельга, то і меней, тады буду клеіць на самыя выдатныя)? Калі можна — зрабі гэта калі ласка і абавязкова напішы мне, колькі гэта будзе каштаваць. Я ведаю, як жывуць мастакі і не хачу ўводзіць цябе ў расходы. А калі не захочаш (гэта ўжо крайні выпадак) напішы, колькі гэта будзе, а я табе кошт замяшчу кніжкамі, якімі сам захочаш.*

*Ты прасіў "Каласы"? Вышлі яны ў "Шк. бібліятэцы", пакуль першы том, і разышліся па шк. бібліятэках, кніга не для гандлю. А мне, бо гэта перавыданне, аўтарскіх далі 2 экземпляры. Адзін дасылаю табе. А другі выйдзе ў наступным годзе. Нагадай мне — дашлю таксама.*

*Абдымаю Вас усіх.*
*Ваш Ул. Караткевіч*



Дарагі Вячка! 27.XII.83.
Віншую цябе з новым годам. Хай будзе табе і ўсім шмат гадоў, шмат здароўя, шмат шчасця і - галоўнае - шмат цудоўных карцін, якія палюбяць добрыя людзі.
Прашу прабачыць за маўчанне. Я з'ехаў вясной на радзіму, сядзеў у садзе, сачыў за калаўротам прыроды і начыста адключыўся ад усяго, ад работы і аж да лістоў, якія чакалі дома. Вось цяпер прыехаў, але і тут адказваць часта не магу. Бо адключыўся я ў ліку ўсяго і ад работы (інакш бы памёр), і назбіралася ях - горы.
Вось так, княжа.
Цалую Вас усіх і абдымаю. Уладзімір.
Хоць бы Вы заняліся, бы эскізы для беларускіх паштовак праванавалі. А то жах!

Мастак М. М. Гаўрыловіч
З Новым годам!
©Беларусь, 1979
Художник Н. М. Гаврилович
С Новым годом!
На белорусском языке
Т. 150 тыс. экз. Ц. 3 к. З. 1840.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржкамвыда БССР.
220005, Мінск-5, Чырвоная, 23.
80205—176
Г————240—79
М 301(05)—79

Паштоўка ад 28 чэрвеня 1982 года:

*Мілы Вячаслаў!*

*Прабач за два словы. Хвароба і запарка, і недзе падзецца. Дзякуй табе за цудоўныя фоткі (як жывыя мы ўсе і столькі ўспамінаў), за "путеводитель" і за часопіс, які, вядома, з радасцю буду чытаць, але ўвесь (цярпець не магу чакаць ад месяца да месяца). Скончыў п'есу і 3х серыйны сцэнар, а яшчэ дзве работы чакаюць. Зусім я як загнаны конь. Як атрымаю раман Ніедре — буду стукаць у дзверы, каб перакладалі. <…>*

*Я, як магу, прапаведваю. Але я не магу замяніць калектыва, які думаў бы тое самае і тое самае прапаведваў. Дый не мая гэта справа. Кожнага пераконваць — не хопіць ні крыві, ні нерваў. Кнігу «Каласоў», па-мойму, даслаў (хіба задурыўся?). Пацвердзіце, што атрымалі.*

*Прывітанне родным і знаёмым.*

*Абдымаю.*
*Твой У. Караткевіч*

Паштоўка ад 27 снежня 1983 года:

*Дарагі Вячка!*

*Віншую цябе з Новым годам. Хай будзе табе і ўсім шмат гадоў, шмат здароўя, шмат шчасця і — галоўнае — шмат цудоўных карцін, якія палюбяць добрыя людзі.*

*Прашу прабачыць за маўчанне. Я з'ехаў вясной на радзіму, сядзеў у садзе, сачыў за калаўротам прыроды і начыста адключыўся ад усяго, ад работы і аж да лістоў, якія чакалі дома, вось цяпер прыехаў, але і тут адказваць часта не магу. Бо адключыўся я ў ліку ўсяго і ад работы (іначай бы памёр), і назбіралася яе — горы.*

*Вось так, княжа.*

*Цалую Вас усіх і абдымаю*
*Уладзімір*

*Хоць бы Вы заняліся і эскізы да беларускіх паштовак прапанавалі. А то — жах!*

На некалькіх старонках, у некалькіх сказах, трапных выказваннях — характарыстыка часу, асяроддзя; выразны партрэт чалавека, які адчуваў боль, перажываў адзіноту і расчараванне; дасціпны назіральнік, гумарыст; шчыры сябар, які і ў дробязях імкнуўся выяўляць клопат; вялікі эрудыт і кніжнік. Але па-над усім гэтым — пісьменнік, які нязменна застаецца для нас прыкладам неабыякавасці, сумленнасці і гранічнай дакладнасці ў слове.

**Публікацыя Ганны ЗАПАРТЫКА**



Фота Анатоля Клешчука.

Вуліца Ніжне-Пакроўская.

У падарунак




## ПОЛАЦКУ — АД КРАІНЫ

Сёлета самы старажытны беларускі горад не толькі рыхтуецца здзіўляць гасцей новымі культурніцкімі праектамі і нечаканымі адкрыццямі, але і прымаць падарункі. Да Дня беларускага пісьменства Выдавецкі дом «Звязда» падрыхтаваў адмысловы фотаальбом «Полацк» (фота Анатоля Клешчука; укладальнікі Аляксей Жабінскі, Вольга Рацэвіч; аўтар тэксту часткі «Полацк гістарычны» Сяргей Тарасаў). Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Сімвалічнымі ўводзінамі, паэтычным эпіграфам стаў урывак з прадмовы Францыска Скарыны да «Кнігі Юдзіфі» ў перакладзе на беларускую мову Алеся Разанава. Акрамя вялікай колькасці фотаілюстрацый, якія прадстаўляюць сучаснае аблічча Полацка ў розных праявах грамадска-культурнага жыцця, кніга аздоблена і своеасаблівымі гістарычнымі даведкамі.

Як адзначыў у прадмове старшыня Полацкага раённага выканаўчага камітэта член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Мікалай Шаўчук, «Полацк — асаблівы горад, дзе гарманічна спляліся сівая даўніна і прагрэсіўны дух сучаснасці». Тэкставае суправаджэнне напоўніцу гэта раскрывае. У раздзеле «Полацк гістарычны» аналізуюцца асноўныя этапы няпростага гістарычнага шляху нашых продкаў — ад 862 года да 2017-га. Нават абазнаны чытач мае магчымасць «аднавіць» свае веды па айчыннай гісторыі. Напрыклад, задумацца над тым, што Полацк быў хрысціянскім яшчэ да заваявання князем Уладзімірам, альбо над тым, што Ефрасіння Полацкая стала заснавальніцай першага жаночага манастыра на ўсходнеславянскіх землях.

Вядома, шмат увагі аддадзена полацкаму сабору Святой Сафіі — Божай Мудрасці. «На Беларусі няма больш старажытнага храма, як і няма храма з больш драматычнай гісторыяй», — адзначае С. Тарасаў. Раздзел жа «Асвета і культура», вядома, найбольш поўна асвятляе галоўную тэму года — дзейнасць Францыска Скарыны. У суправаджэнні разнастайных фотаздымкаў з полацкага Музея беларускага кнігадрукавання гістарычныя факты ўспрымаюцца з асаблівай цікавасцю.

Раздзел «Полацк сучасны» знаёміць з геаграфічнымі адметнасцямі, сучаснымі ўстановамі адукацыі і аховы здароўя. Нібы ў працяг гістарычнага экскурсу пра горад майстроў — расповед пра сённяшні полацкі гандаль і сферу паслуг, які дасціпна ілюструецца фотаздымкам скульптуры «Полацкі купец», што на пляцоўцы ля Дома гандлю. Прадстаўлена тэма развіцця культурнай, эканамічнай, спартыўнай, сацыяльнай сфер рэгіёна. Вядома, асобна разглядаецца развіццё турыстычных сувязей. Калі гістарычная частка аздоблена пераважна фотавыявамі культурных артэфактаў, што так ці інакш звязваюцца з полацкай мінуўшчынай, то ў раздзеле, прысвечаным сучаснасці, мы сустрэнем шмат здымкаў сучасных палачан розных узростаў.

Фотаальбом «Полацк» паспяхова можа выкарыстоўвацца ў адукацыйным працэсе — як падручнік па гісторыі і геаграфіі Беларусі, гісторыі славянскай культуры. Дзякуючы выдатным фотаілюстрацыям Анатоля Клешчука, полацкая гісторыя — цытуючы сучасны гімн горада — напоўніцу раскрываецца ў «сваёй панадзвінскай красе», непарыўнай узаемасувязі з днём сённяшнім і будучым.

**Яўген ГЛЕЧЫК**

# Да род(з)най кнігі: з вядучымі

**Знакамітыя творцы, лепшыя кнігі і чытачы ў адзін дзень збяруцца ў адным месцы і ў рэальным часе, каб сцвердзіць: папяровыя кнігі не губляюць актуальнасці ў час лічбавых тэхналогій. Якія кнігі адзначаюць сёлета самі друкары?**

### КЛАСІКА — ДЗЕЦЯМ, ЛІРЫКА — ДАРОСЛЫМ

Дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак лічыць: тое, што свята мяняе гарады, спрыяе і прапагандзе літаратуры, і яе развіццю, бо, з аднаго боку, жыхары гэтых месцаў маюць магчымасць пачуць беларускае слова, пазнаёміцца з сучаснай айчыннай літаратурай, а з другога — гэта пашырэнне аўдыторыі для пісьменнікаў. Алесь Бадак адзначае:

— Не думаю, што папяровая кніга губляе папулярнасць з-за інтэрнэту. Напрыклад, у мяне каля 100 тысяч электронных кніг. Збіраць такія кнігі — не праблема, бо іх лёгка знайсці ў сецівe. Але менавіта дзякуючы электроннай кнізе, мая асабістая папяровая бібліятэка пачала расці: раней, каб набыць кнігу незнаёмага мне аўтара, трэба было яе пашукаць і пазнаёміцца. Сёння мне гэтае папярэдняе знаёмства непатрэбнае. Калі мне нешта падабаецца ў электронным варыянце з першых старонак, я абавязкова набуду твор у папяровай версіі, бо буду яго не толькі чытаць, але і перачытваць. Іншая справа, што мне як выдаўцу, а не як чытачу, трэба думаць аб тым, што папяровая кніга павінна быць арыгінальнай, цікавай, з прывабным знешнім афармленнем, каб яна адпавядала часу. І не толькі таму, што сёння іншая эпоха, чытацкія патрабаванні, але і іншыя магчымасці.

Сёлета «Мастацкая літаратура» прадставіць шмат навінак: у выдавецтве штогод выходзіць больш за 70 выданняў. Некаторыя серыі ўжо маюць свайго чытача. У серыі «Сто вершаў» выйшлі кнігі Пімена Панчанкі і Міхася Стральцова, якія адзначаюць сёлета юбілеі (100 і 80 гадоў). Гэтыя выданні ўнікальныя нават не самімі вершамі, а тым, што для ілюстрацыі выкарыстаны карціны выдатных беларускіх мастакоў, якія знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі. «Мне падаецца, што гэтыя віды мастацтва вельмі блізкія, родныя, бо дапаўняюць адно аднаго, — гаворыць Алесь Бадак. — У эпоху, калі цікавасць да паэзіі не такая вялікая, паяднанне розных відаў мастацтва дапамагае чытачу звярнуцца да вершаў. Беларуская паэзія вельмі прыгожая, музычная, гэта малюнак слова. Мяркую, што карціны дапамагаюць лепш зразумець вершы».

Серыя «Класіка дзецям»: да Дня беларускага пісьменства выйдзе першая кніга з лепшымі дзіцячымі творамі Якуба Коласа, далей будзе Купала. Трэба зацікавіць дзетак класікай, вершамі, на якіх выхоўвалася не адно пакаленне беларусаў і якія не страцілі сваёй прыгажосці, надзённасці і выхаваўчай ролі. Вялікую ўвагу надавалі і мастацкаму афармленню: кніга атрымалася яркая.

Выданне «500 гадоў беларускага кнігадрукавання» для выдаўца асаблівае. Пад вокладкай сабрана ўся гісторыя кнігадрукавання пачынаючы ад рукапісных кніг і па сённяшні дзень. У выданні вельмі шмат здымкаў: вокладкі кніг розных эпох, партрэты нашых класікаў, здымкі выдавецтваў і друкарань. Асабліва гэтае выданне будзе запатрабавана сёлета, бо ў беларусаў абудзілася цікавасць да айчыннай кнігі і яе гісторыі.

Да Дня беларускага пісьменства выйшлі кнігі, звязаныя непасрэдна з Полацкам. Напрыклад, «Сафійка. Полацк. Родны край» з творамі пісьменнікаў розных пакаленняў, якія не абавязкова звязаны з гэтым горадам сваёй біяграфіяй, але яны адчувалі Полацк і прысвячалі яму свае творы: Гарэцкі, Караткевіч, Багдановіч… Немагчыма не ўзгадаць перастварэнні Алеся Разанава прадмоў Францыска Скарыны. Тыя, хто цікавіцца беларускай літаратурай і гісторыяй, як правіла, згадваюць адну прадмову Скарыны пра звяроў, птушак і рыб, а Алесь Разанаў даказаў і паказаў, што ў першадрукара шмат такіх твораў, з якіх можна скласці цэлую кнігу. Таксама выдавецтва падрыхтавала вялікае выданне «Францыск Скарына са слаўнага горада Полацка» з гісторыяй, артыкуламі, напісанымі спецыяльна для кнігі, і тэкстамі вядомых беларусаў.

### РАРЫТЭТЫ І ТЭХНАЛОГІІ

Сучасныя выдаўцы як нашчадкі справы Скарыны ідуць шляхам асветніцтва. Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» ставіць мэту садзейнічаць імкненню людзей да ведаў, да пазнання сваёй краіны і свету. Дырэктар выдавецтва Уладзімір Андрыевіч адзначае:

— Энцыклапедысты, як ніхто іншы, разглядаючы сённяшні дзень праз прызму мінулага і будучыні, павінны ў сваіх выданнях дэманстраваць своеасаблівую ўнікальнасць Беларусі, што будзе садзейнічаць паляпшэнню іміджу краіны на міжнароднай арэне, развіццю нацыянальнай ідэі, умацаванню дзяржаўнасці. Адна з галоўных нашых задач — канкурэнтаздольнасць беларускай энцыклапедычнай прадукцыі з улікам новых камунікацыйных тэхналогій і захаванне інфармацыі пры пераходзе на новыя базавыя тэхналогіі і методыкі вытворчасці энцыклапедычнай і даведачнай літаратуры з улікам актуалізацыі анлайн. Беларусь захавала багатыя энцыклапедычныя традыцыі і займае добрыя пазіцыі ў выданні агульнадзяржаўных энцыклапедый на постсавецкай прасторы.

У прыватнасці, пра гэта сведчыць гран-пры сёлетняга Міжнароднага конкурсу краін — удзельніц СНД «Мастацтва кнігі» за кнігу «Сусветная спадчына Францыска Скарыны» з серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў», а таксама вышэйшая ўзнагарода Еўразійскай кніжнай выставы «*Eurasian Book Fair*». Але гэта толькі адно выданне з шэрага кніг, прысвечаных 500-годдзю беларускага кнігадрукавання: тры кнігі выйшлі ў серыі «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя»; асобнае выданне на рускай мове «Франциск Скорина — человек мира». На падыходзе персанальная энцыклапедыя «Францыск Скарына».

Выдавецтва прадстаўляе Беларусь як краіну друкароў. Навукова-папулярнае выданне «Спірыдон Собаль і вытокі магілёўскага кнігадруку» — першае ў краіне, прысвечанае гісторыі кнігадрукавання асобнага рэгіёна. Прадаўжальнік справы Скарыны Спірыдон Собаль пачаў кнігадрукаванне ў Куцейне, Буйнічах пад Магілёвам і ў самім Магілёве. Ён выдаў першы на землях сучаснай Беларусі «Буквар».

У нейкім сэнсе працягвае тэму кніга серыі «Ганаруся табою, Беларусь» — «Асветнікі Беларусі. Ефрасіння Полацкая. Кірыла Тураўскі. Францыск Скарына». У кожную эпоху наша зямля нараджала асоб, якія пісалі, перакладалі і выдавалі кнігі, стваралі вершы, малітвы і пропаведзі, засноўвалі храмы, манастыры, школы і г.д. Тым самым яны спрыялі больш дынамічнаму і паспяховаму развіццю ўсяго грамадства.

Для таго каб гэта было зразумела нават дзіцяці, выдавецтва прадставіла кнігу «Я. Купала» (у серыі «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя») пра вялікага нацыянальнага паэта Янку Купалу. Можна даведацца пра гісторыю сям'і Луцэвічаў, дзяцінства і юнацтва будучага паэта, яго захапленні. Пра гарады і вёскі, дзе Янка Купала жыў, вучыўся, працаваў, а таксама пра вершы паэта для дзяцей. Гэтая серыя заснавана год таму, але ўжо набыла папулярнасць дзякуючы расповедам пра крэпасці Беларусі, першых людзей на нашай зямлі, пра дзікіх жывёл і птушак, ёсць нават «Энцыклапедыя юнага турыста».

Своеасаблівыя этнавандроўкі ўяўляюць выданні серыі «Энцыклапедыя народнага майстра», якая знаёміць з традыцыйнымі рамёствамі кшталту саломапляцення, кавальства, ганчарства і г.д. Нацыянальная культура — багатая глеба для персанальных адкрыццяў чытачоў, пра што сведчыць цікавасць да кніг па традыцыйнай беларускай вышыўцы, арнаменце. Нездарма заснавалі асобную серыю «Азбука сімвалаў Беларусі» — усё дзеля таго, каб лепш разумець сваю краіну.

### НОВЫЯ ЖЫЦЦІ КАРАТКЕВІЧА

Падчас Дня беларускага пісьменства выдаўцы атрымліваюць неабходную зваротную сувязь з рэгіёнамі і знаёмяцца з патэнцыяльнымі чытачамі. Выдавецтва «Беларусь» будзе рабіць гэта праз цікавыя выданні, гаворыць загадчыца літаратурнай рэдакцыі выдавецтва Юлія Аверчанка:

— Да Дня беларускага пісьменства мы выпусцілі выданне «Кніжныя скарбы Беларусі» на беларускай, рускай і англійскай мовах, у якім сабралі гісторыю беларускага



Фота Анатоля Клешчука.

Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага.

# беларускімі выдавецтвамі

кнігадрукавання на прыкладзе Музея беларускага кнігадрукавання ад старажытных Біблій (Друцкай, Полацкай, Ваўкавыскай) да кніг, якія займаюць важнае месца на кніжных выстаўках сучаснасці. Верш-эпіграф для гэтай кнігі напісаў Віктар Шніп. Гэта не толькі ілюстраванае выданне, якое можна падарыць, але і кніга для чытача, які хоча пазнаёміцца з айчыннай спадчынай. Выдавецтва «Беларусь» адметнае тым, што мы штогод выдаём адрыўны каляндар. Сёлета праз каляндар «Родны край» мы спрабавалі распавесці пра беларускі каларыт і не надта вядомыя абрады. Мы не абмінулі тэму юбілею сталіцы: выданне беларускага журналіста Віктара Корбута «Мінск» распавядае пра XIX — XX стагоддзі ў гісторыі горада. Кніга атрымалася ў двух тамах, хутка выйдзе другая частка пра сучаснасць.

Але сёлета ў выдавецтва ёсць кнігі, якімі можна ганарыцца. Па-першае, гэта 2 тамы кнігі «100 гадоў міліцыі Беларусі». Вельмі шмат узнагарод атрымала гэтае выданне за змест і мастацкае афармленне: сабраны ўнікальны матэрыял, над якім шмат працавалі складальнікі, аўтары… Можна прасачыць гісторыю не толькі праз тэксты, але і праз архіўныя фотаздымкі, цікавыя факты, дакументы.

Да знакавых выданняў трэба аднесці кнігі Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Дзікае паляванне караля Стаха». Кнігі праілюстраваў выдатны мастак Міхаіл Басалыга, яго малюнкі — эксклюзіўныя, гэта можна заўважыць і на форзацы, на якім намалявана Нябесная бітва. Караткевіч нагул пісьменнік па-за часам. Але калі «Дзікае паляванне…» — вядомы твор, то «Хрыстос…» выдаецца не так часта і ў зборы твораў, а не асобнай кнігай. Зараз выдавецтва разглядае магчымасць выдання твораў пісьменніка на рускай мове: адчулі, што шмат замежнікаў цікавяцца гэтым аўтарам.

Незвычайна для гэтага выдавецтва і тое, што яно пачало выпускаць прыгожыя дзіцячыя кнігі. Цяпер вырашылі звярнуцца да гэтай тэмы. Адметныя кнігі Святланы Фадзеевай «Казкі дзядулі Рака» і маладой беларускай паэтэсы Эльгі Паповай «Мае казкі». Яны выкананы неверагодна прыгожа, з 3D-ілюстрацыямі і цікавымі казачнымі гісторыямі. Эльга Папова сама праілюстравала выданне, бо яна яшчэ і мастачка.

— Канкурэнцыя выдавецтваў з інтэрнэтам непазбежная, але тыя, хто ездзіць на выстаўкі ў замежныя краіны, распавядаюць, што ў краінах Захаду, у Скандынавіі папяровая кніга «бессмяротная», нягледзячы на тое, што там тэхналогіі даўно зрабілі крок наперад, — лічыць Юлія Аверчанка. — Электронная кніга ў гэтых краінах займае 20% аўдыторыі. Падаецца, што камп'ютарызацыя яшчэ больш адраджае культуру чытання і цікавасць да папяровай кнігі.

## ЧАС НОУ-ХАУ: ПРАГРАМАВАННЕ І НЕЧАКАНАЯ РАМАНТЫКА

Выдавецтва «Народная асвета» працуе з патэнцыяльнымі чытачамі яшчэ да пачатку Дня беларускага пісьменства: супрацоўнікі дасылаюць школьнікам заданні на аснове выдадзеных кніг, выканаўшы якія, дзеці змогуць атрымаць свой падарунак. Атрымліваецца ахапіць шырокае кола мэтавай аўдыторыі, адзначае дырэктар выдавецтва Вікторыя Калістратава:

— Наша спецыфіка — падручнікі, таму менавіта іх мне спачатку і хацелася б адзначыць. Мы выдалі некалькі новых дапаможнікаў для 7 класа па фізіцы, алгебры, геаметрыі, хіміі, а таксама першы ў Беларусі электронны падручнік па інфарматыцы. Што тычыцца фізікі, пра яе трэба распавесці асобна: упершыню ў Беларусі кніга выйшла ў інтэгральным пераплёце фарматам А4, у лепшых традыцыях еўрапейскіх і амерыканскіх школ. Гэта эксперыментальны дапаможнік, ён будзе адпрацоўвацца ў школах не толькі па змесце, але і па зручнасці выкарыстання. Што тычыцца геаметрыі, то мы вырашылі «разбавіць» сухую навуку яркім афармленнем — на вокладцы выкарыстали фрэску Рафаэля «Афінская школа». Сумесна з адукацыйным цэнтрам Парка высокіх тэхналогій мы выдалі дапаможнік для школьнікаў па стварэнні камп'ютарных гульняў. Гэтая кніга па праграмаванні — першы вопыт выдавецтва ў гэтым кірунку.

У выдавецтва з'явілася адметная серыя дзіцячай літаратуры «Казкі для вундэркіндаў»: галоўны герой хлопчык Цім распавядае пра ўсё, што бачыць. Праз яго падарожжы ідзе аповед пра брэнды, асаблівасці і «фішкі» нашай краіны. Напрыклад, Цім едзе з сябрамі ў Дудуткі ці ў сядзібу Дзеда Мароза ў Белавежскую пушчу… Гэта яркае выданне, якім і павінна быць дзіцячая кніга, асабліва калі аўтар спрабуе размаўляць з дзецьмі пра нешта сур'ёзнае кшталту асобнага збору смецця. Першая кніжка з гэтай серыі была пра дэнамінацыю: дзеці даведаліся пра банкаматы, манеты і карыстанне карткамі.

Сталіцу Беларусі ўшанавалі кнігай «Прагулкі па Мінску: горад, які выбіраюць дзеці». Аповед вядуць маленькія героі: 10-гадовы хлопчык і 5-гадовая дзяўчынка, якія шукаюць у сталіцы месцы, якія спадабаліся б дзецям. У такім узросце дзецям нецікава чытаць сухія факты з гісторыі, таму кнігу разбілі на раздзелы кшталту «Калі я буду палітыкам», дзе распавядаецца пра Дом урада і тлумачацца назвы, даюцца парады, што трэба ўбачыць. Мінск у кнізе падзяляецца на «парадны» і «ўтульны», у другой частцы горада можна пагуляць з сям'ёй, правесці час у прыемнай атмасферы.

Знакавая для выдавецтва кніга «Шляхамі Францыска Скарыны». Выданне выклікала цікавасць у Міністэрства замежных спраў, бо выйшла на трох мовах, таму яе выкарыстоўваюць у якасці падарунка замежным гасцям. Асаблівасць гэтай кнігі найперш у ілюстрацыях, маршрутных картах. Такое выданне зручна ўзяць з сабой.

Для дарослых падрыхтаваны збор вершаў Міхася Башлакова, дзе сабраны творы, напісаныя на працягу ўсёй паэтычнай дзейнасці. Таксама выйшла кніга п'ес Фёдара Палачаніна «Ці так жывём?».

— Дзякуючы вопыту працы ў Беларусі і за мяжой, я заўважыла, што папяровая кніга карыстаецца ўсё большым попытам — і не толькі дзіцячая, але і дарослая, — адзначае Вікторыя Калістратава. — Новае пакаленне ўспрымае свет па-іншаму, але добрую кнігу таксама любіць. Чытанне папяровай кнігі назаўсёды застанецца з чалавекам, бо ў такое выданне закладзена шмат працы добрых людзей — злыя кнігу стварыць не могуць!

## НАВУКА ЗЯМЛІ ПРАЗ СТАГОДДЗІ ГІСТОРЫІ

Дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух лічыць, што Дзень беларускага пісьменства для выдаўца — знакавая падзея, бо, па-першае, дазваляе зразумець усю моц беларускай кнігі. Да таго ж кожнае выдавецтва можа прааналізаваць сваю працу, адсвяткаваць поспехі разам з калегамі, звярнуцца да сваёй гісторыі праз прызму кнігі, падкрэслівае Ліліяна Фёдараўна:

— Для выдаўца кожная кніга дарагая, як дзіця. Сёлета мы паказваем выданне, якое патрабавала маштабнай працы, — альбом-кнігу «Сімфонія стагоддзяў». Тэма выбрана невыпадкова: яна тычыцца Прыдзвіння, дзе пачыналася наша гісторыя. Мы прыцягнулі да супрацоўніцтва шмат беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, творчасць якіх садзейнічала з'яўленню ў кнізе той ніці, на якую нанізваўся аповед. Размова пра беларускую гісторыю, культуру пачынаецца з часоў, калі па тэрыторыі нашай краіны праходзіў шлях «з варагаў у грэкі». Мы таксама ішлі па дарозе ўздоўж ракі Дзвіны ад старажытнасці аж да XXI стагоддзя. Аповед суправаджаюць гістарычныя і археалагічныя звесткі, паэтычныя творы, фотаздымкі. Падаецца, атрымалася лірычнае выданне, аздобленае непаўторнымі беларускімі пейзажамі.

Асобная кніга прысвечана 950-годдзю сталіцы — «Мінск праз стагоддзі». Гэта хутчэй фотаальбом, але ёсць магчымасць пачытаць цікавыя гісторыі, «наведаць» знакавыя мясціны і ўзгадаць падзеі з амаль тысячагадовай гісторыі горада. Няпроста было працаваць над ёй, прытым, што ў выдавецтва наладжана супрацоўніцтва са сталічнымі раёнамі, багаты архіў. Але дапамагае імкненне прыцягнуць увагу чытачоў — кніга была лепшым падарункам ва ўсе часы.

У кнізе «Земляробы» разам з журналістам Леанідам Екелем расказалі пра лепшых земляробаў Беларусі, але гэта не зусім тыя, пра каго адразу ўзгадваем: камбайнеры, трактарысты. Тут распавялі пра тых вучоных, чыё важкае слова ў сельскагаспадарчай навуцы забяспечвае высокія ўраджаі, чый вопыт сёння вывучаюць за мяжой. Вельмі цікавы досвед — мастацкі аповед пра дасягненні беларускай навукі і земляробства.

Выдавецтва выпускае не толькі папяровыя кнігі, але і электронныя: трэба разумець патрэбы грамадства і рухацца ў нагу з часам. Тут лічаць, што гэтыя працэс не менш важны за друкаванне папяровай кнігі.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**



Фота Анатоля Клешчука.

*Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт (размешчаны ў будынку былога езуіцкага калегіума, які быў адкрыты ў XVI ст.).*

*У падарунак*

# КРАІНЕ — АД ПАЛАЧАНІНА




Адлік беларускай гісторыі пачынаецца згадкай пра Полацк. Трапіць у гэты старажытны горад можна на першых старонках кнігі Уладзіміра Арлова «Айчына: маляўнічая гісторыя». Пяць вялікіх разваротных ілюстрацый Паўла Татарнікава дазваляюць уважліва разгледзець, як мянялася аблічча Полацка з IX па XIII стагоддзе, як палачане сустракалі багатыя купецкія караблі, як княжацкае войска выпраўлялася ў паход на Рыгу ў 1216 годзе...

Першая частка кнігі «Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі» — адзін з сёлетніх беларускіх бестселераў. Кніга складаецца з трыццаці аднаго аповеда і змяшчае больш за сотню выдатных ілюстрацый. Многія ілюстрацыі маюць разгорнутыя апісанні-тлумачэнні, што стварае эфект прысутнасці: чытач адразу адчувае сябе далучаным да падзей беларускай гісторыі: «Цяпер вы перанесліся ў зімовыя ваколіцы Полацка таго часу, калі ў ім уладарыў першы вядомы з летапісаў князь Рагвалод. Злева полацкі баярын са слугой. Яны прыехалі сюды на тарпанах — прыручаных дзікіх конях. Слуга трубіць у турыны рог, які нашы продкі называлі сурмой. Ён дае сігнал збору паляўнічым, што вяртаюцца дадому з густых і багатых на звярыну навакольных лясоў <...>».

На старонках кнігі згадваецца безліч значных падзей, вядомых асоб і знакамітых артэфактаў. Асобныя аповеды прысвечаны рыцарам Вялікага Княства Літоўскага, Берасцейскай уніі, князям Радзівілам, выдаўцу і перакладчыку Гальяшу Капіевічу. Побач з беларускімі гарадамі чытач можа агледзець краявіды Вільні, Варшавы, Смаленска. Да таго ж у выданні налічваецца больш за шэсцьдзясят партрэтаў. Аўтар распавядае пра мінулае Беларусі з пашанай і пачуццём адказнасці, што вельмі важна, бо «маляўнічая гісторыя» адрасавана найперш дзецям і падлеткам. Для іх напрыканцы кожнага аповеда змешчаны пытанні, якія дапамогуць замацаваць веды і паразважаць над нашым мінулым. Але насамрэч гэтая кніга спатрэбіцца кожнаму, хто мае патрэбу час ад часу аднаўляць веды па гісторыі Беларусі. Пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў працаваў над кнігай чатыры гады, мастак Павел Татарнікаў — шэсць гадоў. Выданне другой часткі «Айчыны» будзе прысвечана падзеям ад трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай да аднаўлення беларускай незалежнасці на пачатку 1990-х гадоў. А папярэдніцай «Айчыны» была знакамітая кніга Уладзіміра Арлова «Адкуль наш род», якая пабачыла свет у 1996 годзе. Уладзімір Арлоў нарадзіўся ў Полацку, і атмасфера старажытнага горада над Дзвіной заўсёды сілкуе яго ў творчай працы. Адкрыць сваю Айчыну разам з Уладзімірам Арловым варта ўжо таму, што гэтая кніга мацуе веру ў нашу краіну, а свет беларускай гісторыі паўстае тут каляровым, яркім і шматаблічным.

*Выданне адзначана дыпломам II ступені на XIV Міжнародным конкурсе «Мастацтва кнігі» дзяржаў — удзельніц СНД у намінацыі «Мастацтва ілюстрацыі».*

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ ПРЭМІЯ:

## знаёмімся з намінантамі

# Сучасныя рэаліі і сюжэтныя неспадзяванкі

Кнігі, вылучаныя ў намінацыі «Проза», здзіўляюць разнастайнасцю тэм і стыляў. Калі Валерый Гапееў водзіць чытача па беларускіх сенажацях заблытанымі дэтэктыўнымі сцежкамі ў рамане «Ноч цмока» (Мінск: «Галіяфы», 2016), то «Сонечны чалавек» (Мінск: «Выдавец А. М. Янушкевіч», 2016) Андрэя Дзічэнкі не шукае ні сонца, ні праўды жыцця, бо перакананы, што час, калі чалавек кіраваўся такімі сэнсамі, даўно мінуў. Рускамоўную прозу прадстаўляюць Наталля Касцючэнка, якая мяркуе, што для яе надышоў «час жніва і час пакаяння» («Время жатвы и время покаяния», Минск: Белорусский республиканский литературный фонд, 2016), і Наталля Батракова, якая па-ранейшаму спрабуе спыніць імгненне бясконцасці і падзяліцца з чытачамі бясконцасцю любові і бясконцасцю смутку («Бесконечность любви, бесконечность печали», Минск: Икселент, 2016). А Людміла Рублеўская выпраўляецца ў няпросты, далёкі і поўны прыгод шлях разам з Пранцішам Вырвічам («Авантуры Пранціша Вырвіча, здрадніка і канфедэрата», Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2016). Анатоль Разановіч, нягледзечы на тое, што яго кніга «Палын-вада» была ўхваленая экспертным саветам і ўвайшла ў спіс намінатаў, прыняў рашэнне зняць сваю заяўку.

Аматары творчасці Н. Батраковай чатыры гады чакалі новай сустрэчы з ужо знаёмымі па папярэдніх кнігах героямі. Раман «Бясконцасць любові, бясконцасць смутку» прапаноўвае чытачам нечаканыя сюжэтныя павароты (праўда, часам занадта ўскладненыя неабавязковымі адхіленнямі), знаёмую кожнаму беларускую рэчаіснасць і пазнавальную мінскую і калямінскую геаграфію. У пісьменніцы ёсць свая сталая ўдзячная аўдыторыя, пераважна жаночая, і гэта цалкам апраўдана выбраным жанрам. Героі Н. Батраковай не пераймаюцца экзістэнцыйнымі рэфлексіямі, іх думкі значна больш зямныя. Тут няма дэмаркацыйнай лініі паміж дабром і злом, калі сяброўства, каханне, вернасць — адназначна на баку станоўчых персанажаў, а подласць, здрада, помста — поплеч з адмоўнымі.

Вядома, чытацкія сімпатыі размяркоўваюцца ў залежнасці ад учынкаў герояў. Але пісьменніца карыстаецца звыклай псіхалагічнай схемай, з дапамогай якой сёння часта робяцца рэтраспектыўныя псіхааналізы адмоўных персанажаў: апісваючы паводзіны і падступныя задумы герояў, яна нязменна знаёміць чытача з іх дзяцінствам, юнацтвам, этапамі прафесійнага сталення. Нібы падказвае: не бывае людзей подлых ад прыроды, на гэта іх правакуе атачэнне, недахоп бацькоўскай любові, увагі настаўніка, сябра. Урэшце, усё тое, што з малых гадоў робіць чалавека нешчаслівым. Як і станоўчыя героі, тыя, каму чытачы суперажываюць, — не ідэальныя, не паслядоўныя ў сваёй станоўчасці. Яны таксама могуць быць несправядлівымі, злымі, няўважлівымі, абыякавымі — пад цяжарам уласных праблем, стомы, хваробы… Магчыма, кнігі Н. Батраковай карыстаюцца такім поспехам менавіта таму, што кожны чытач можа разгледзець у адным з герояў сябе, свае недахопы і заганы, але без асуджальнай ноткі. «Напэўна, у цябе ёсць свая праўда, але для мяне яна зусім нецікавая», — прамаўляе адзін з галоўных герояў Вадзім Ладышаў. І гэтая думка — на ўзроўні падтэксту — гучыць у кнізе неаднойчы: у кожнага з нас сваё разуменне праўды, і сэнс не ў тым, каб высветліць, чыя больш «праўдзівая», а ў тым, каб навучыцца прымаць чужую.




Кніга Н. Касцючэнкі створана цалкам у іншай танальнасці, па сутнасці, гэта споведзь, у якой фіксуюцца і поспехі, і няўдачы, пачуццё гордасці пераплятаецца з прызнаннем віны… Ладную частку рамана-эсэ (аўтарскае азначэнне) займаюць развагі агульнафіласофскага кшталту, уводзінамі да якіх аўтар выбрала цытаты знакамітых пісьменнікаў, мысляроў, старажытных філосафаў. Варта адзначыць, што гэта не лепшыя старонкі кнігі, бо не выглядаюць арыгінальнымі, адметнымі, запамінальнымі. Значна больш цікава чытаюцца элегічна-настальгічныя аповеды пра родную палескую вёску, якая апынулася ў зоне адсялення пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Як асобныя самастойныя гісторыі ўспрымаюцца пошукі шчасця ў каханні і мужчынскай пяшчоце. Праўда, пранізлівая шчырасць аўтара часам бянтэжыць старонняе вока і сэрца — калі чытач успрымае раман-эсэ як літаратурны твор, а не доўгачаканую споведзь блізкага чалавека. «Ісцінная біяграфія хутчэй не пра дасягненні, а пра грахі», — падсумоўвае Н. Касцючэнка. І, магчыма, некаторыя самавыкрывальныя моманты ўсё ж выходзяць за межы жанру споведзі.

У «Ночы цмока» Валерый Гапееў працягвае мастацкую распрацоўку тэмы змяшання паганскага і хрысціянскага светапоглядаў у беларускай ментальнасці. Нябачная прысутнасць міфалагічнай падасновы ў нашым жыцці — не казачная прыдумка, а штодзённая рэчаіснасць, у якой жывуць героі В. Гапеева. У № 17 «ЛіМа» за 28 красавіка 2017 года была змешчана разгорнутая рэцэнзія Ірыны Шаўляковай пад назвай «Ноч масліту, або *Middle*-літаратура *high*-класа», у якой было адзначана, што «раман В. Гапеева можа прэтэндаваць на статус узорнага твора айчыннай белетрыстыкі». Безумоўна, варта звярнуць увагу і на адметнасць дэтэктыўнага складніка, які аўтару ўдалося зрабіць настолькі насычаным нацыянальным каларытам (і ў плане побытавым, і ў плане ідэйным, светапоглядным), наколькі гэта ўвогуле магчыма.

Калі насычанасць беларускай рэчаіснасцю ў В. Гапеева бярэцца з сучаснасці, то Людміла Рублеўская ў каторы раз ладзіць вандроўкі ў мінулае. Факты айчыннай мінуўшчыны, прадстаўнікі слаўных княжацкіх родаў, увядзенне ў няпросты культурна-гістарычны кантэкст шляхам дэталёвага апісання побыту, нораваў, звычаяў удала ўплятаюцца ў займальную сюжэтную канву. Пра тэтралогію Л. Рублеўскай, галоўнымі героямі якой сталі Пранціш Вырвіч і Баўтрамей Лёднік, пісалі шмат, але меркаванні рэцэнзентаў урэшце супадаюць у вызначальных характарыстыках. Па-першае: нягледзечы на лёгкасць успрымання стылю, раман ствараўся не для забаўкі чытача, а для яго выхавання — патрыятычнага і духоўнага. Праява найвялікшага майстэрства пісьменніцы ў тым, што яна зрабіла гэта нязмушана, ненавязліва. Па-другое: твор разлічаны найперш на маладое пакаленне, юнакоў і падлеткаў, якім сёння трэба тлумачыць вартасць традыцыйных каштоўнасцей і неабходнасць ведання нацыянальнай гісторыі. Выхаваўча-асветніцкі пафас відавочны — але толькі для той часткі чытацкай аўдыторыі, якой акурат тлумачыць нічога не трэба. Л. Рублеўская выкарыстоўвае займальны сюжэт у выхаваўчых мэтах, але пры гэтым робіць шмат крокаў насустрач патэнцыяльнаму чытачу: іранічныя заўвагі, якія так даспадобы падлеткам, абавязковыя пошукі кахання, але што яшчэ цікавей — пошукі скарбаў, разгадкі таямніц… Аказваецца, усё гэта магчыма не толькі ў папулярных замежных серыялах, але і ў беларускім мястэчку XVII стагоддзя. І па-трэцяе: у раманах пра Пранціша Вырвіча сучаснасці настолькі многа, як і гісторыі. Зрэшты, менавіта праблемамі сучаснасці выкліканы да жыцця «прыгодніцкі і фантасмагарычны» сюжэт тэтралогіі. У «ЛіМе» былі змешчаны асобныя рэцэнзіі Насты Грышчук на кнігі тэтралогіі («Трэсачкі на беларускіх хвалях», № 27 за 11 ліпеня 2014 года; «Шпацыр над вялікім вірам», № 49 за 12 снежня 2014 года). Апошняя кніга «Авантураў…» была адзначана ў артыкуле Марыны Весялухі «Жыццё або гонар» («Звязда», 27 студзеня 2017 года).

Творчасць Андрэя Дзічэнкі нязменна суправаджаецца азначэннямі кіберпанк і посткіберпанк. Зборнік апавяданняў «Сонечны чалавек» — гэта першая беларускамоўная кніга аўтара, які дагэтуль друкаваў свае творы па-руску. У № 46 «ЛіМа» за 18 лістапада 2016 года была змешчана асобная рэцэнзія Жаны Капусты «Дэшыфратар нясонечных настрояў».

Адметна, што творчасць усіх аўтараў-намінантаў апелюе да беларускай рэчаіснасці — з пазнавальнымі рэаліямі, гарадамі, вуліцамі. Думаецца, у сітуацыі, калі сучасных літаратараў часта абвінавачваюць у страце сувязі з рэальнасцю, гэта станоўчая тэндэнцыя.

**Наталля НАРУТОВІЧ**

# Ад Нарачы



*Фота Анатоля Клешчука.*

*Помнік князю Усяславу Чарадзею, падчас праўлення якога ў Полацку быў пабудаваны новы замак — дзядзінец, славуты Сафійскі сабор. Эпоха Усяслава з’яўляецца адным з самых яркіх і важных перыядаў нашай гісторыі ў барацьбе за самастойнасць Полацкай зямлі.*

Сёлета ў беларускіх выдавецтвах выйшла багата кніжак для дзяцей. Колькасць намінантаў на Нацыянальную літаратурную прэмію ў галіне «Дзіцячая літаратура» сведчыць, што гэта папулярны напрамак творчасці для многіх пісьменнікаў: перамога ў намінацыі будзе яшчэ больш заўважнай, бо за яе спрачаюцца адразу 10 літаратараў. Разнастайнасць адчуваецца ва ўсім: паэзія і проза, чароўныя казкі і пазнавальныя гісторыі, забаўляльныя кніжкі для самых маленькіх і прыгодніцкія аповеды для сярэдняга школьнага ўзросту — беларуская літаратура для дзяцей гатова задаволіць патрэбы вялікай аўдыторыі.

З некаторымі кнігамі азначанай намінацыі чытачы «ЛіМа» знаёміліся на працягу года на старонках рубрыкі «ЛіМпапо» — месцы, адведзеным у газеце пад агляд якаснага чытання для маленькіх аматараў літаратуры і іх бацькоў. Напрыклад, сустракаліся з казкай Генадзя Аўласенкі «Малпачка — дачка нябеснага дракона» («ЛіМ» № 40, 7 кастрычніка 2016 г.). Ніякага дракона ў кнізе няма: яго прыдумвае звычайная хатняя малпачка, якая збегла ад сваёй маленькай гаспадыні і хоча выгадна ўладкавацца сярод лясных звяроў. Яна хлусіць пра сваё нябеснае паходжанне, каб падацца больш прывабнай новым знаёмым, але такая стратэгія спрацоўвае ў адваротным кірунку: у выніку ніхто не хоча сябраваць з ганарлівай малпачкай. Кніга досыць павучальная, бо праз шэраг падзей галоўная гераіня прыходзіць да высновы: сапраўднае сяброўства можа грунтавацца толькі на шчырасці ды бескарыслівасці. Звярнулі ў «ЛіМпапо» ўвагу і на працяг «Касмічнай адысеі хлопчыка Стасіка» ад Кацярыны Хадасевіч-Лісавой — кнігу «Канікулы з прыгодамі, альбо Зваротны візіт Зорнічка да хлопчыка Стасіка» («ЛіМ» № 48, 2 снежня 2016 г.). Аўтар знайшла цікавы (але ўжо даволі класічны) падыход да аповеду: прапанавала чытачу паглядзець на звыклыя рэчы з нязвыклага ракурсу, убачыць наш свет вачыма касмічнага хлопчыка Зорнічка, які ніколі не сустракаўся з зямным ладам жыцця. Такі прыём для дзіцячай літаратуры вельмі карысны, бо развівае фантазію і шырыню мыслення дзяцей і падлеткаў. Да таго ж К. Хадасевіч-Лісавая добра знаёмая з дзіцячай псіхалогіяй, таму яе героі атрымаліся рэальнымі — сапраўднымі недасканалымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія вучацца на сваіх памылках і здольныя даравацць.

Шчыра расказвае пра свет дзяцінства Тамара Бунта ў зборніку апавяданняў «Дзяўчынка з вішнёвага завулка»(«ЛіМ» № 48, 2 снежня 2016 г.). Зборнік атрымаўся аўтабіяграфічны, з дамешкам настальгіі. Гэта не павінна сапсаваць уражанне — наадварот, такі настрой, не засмучаючы маленькіх чытачоў, можа прывабіць да кнігі іх бацькоў. Яшчэ адзін плюс кнігі — цудоўныя казачныя ілюстрацыі ад беларускай мастачкі Аксаны Аракчэевай.

Прыгожы аповед пра прыроду Беларусі прапанаваў у кнізе казак «Возера дзіва» Міхась Пазнякоў («ЛіМ» № 48, 2 снежня 2016 г.). Кніга складаецца з дзвюх частак: празаічнай і паэтычнай. У прозе аўтар знаёміць чытача

# Памкненне да вышэйшага суладдзя

«Паэзія» і «Дзіцячая літаратура» — лідары сярод намінацый па колькасці прэтэндэнтаў на Нацыянальную літаратурную прэмію. Да ўвагі журы прапанавана дзесяць паэтычных зборнікаў, некаторыя з якіх пабачылі свет з урачыстай нагоды — у 2016 годзе адзначылі юбілей Ганад Чарказян і Людміла Кебіч. Ёмістая кніга Ганада Чарказяна складаецца з двух раздзелаў: «Караваны гор», дзе змешчаны пераклады вершаў з курдскай мовы Рыгора Барадуліна, і «Званы трывогі» — пераклады Казіміра Камейшы. Тут і ўсходняя мудрасць, і тонкія жыццёвыя назіранні, і туга па Радзіме ў нязвыклых абрысах... На думку крытыка Алеся Марціновіча, асаблівая важкія набыткі Чарказяна-паэта ў жанры чаргаві (кароткія чатырохрадкоўі).

Зборнік Людмілы Кебіч «Рай для адзіноты» адметны жанравай разнастайнасцю: паэмы, верлібры, трыялеты, тэрцыны, рандэлі, песні... «Моцны ўплыў на паэзію Людмілы Кебіч аказаў такі біяграфічны факт, як наяўнасць музычнай адукацыі і праца ў каледжы мастацтваў у Гродне. Вершы быццам прасякнуты мелодыяй, са сваім своеасаблівым рытмам яны лёгка кладуцца на музыку, у некаторых праглядаецца асаблівасці беларускай фальклорнай лірыкі», — адзначае аўтар прадмовы да зборніка, гродзенскі літаратуразнаўца і крытык Руслан Казлоўскі. Людміла Кебіч «блукае па жаночай непрадказальнасці душы», у многіх вершах яе лірычная гераіня адкрытая прыгажосці, сонцу і людзям. З іншага боку, інтымная лірыка Людмілы Кебіч зусім не сонечная, і радуюць у гэтай кнізе менавіта жыццесцвярджальныя вершы: «Сланечнікі», «Маёй Радзіме», «Цюльпаны», «Брамы восені».



Прысвячэнні Радзіме, звароты да Бога, чароўныя ўспаміны, згадкі пра мары, ад якіх даводзіцца адмаўляцца, знаходзім таксама ў зборніку Марыі Кобец «Палыновая квецень». «Колеры яе паэзіі падобныя да тых красак і фарбаў, якімі расквечаны атуляючы паэтэсу край», — піша ў прадмове Алесь Карлюкевіч. Калі ж вы шукаеце больш яркіх уражанняў, варта звярнуцца да зборніка Таццяны Сівец «Разняволенасць», на які напісана каля дзясятка рэцэнзій. Большасць вершаў Таццяны Сівец — узрушаная, нервовая размова з Ім: просьбы, дакоры, прызнанні, напаміны... «Праўду кажучы, ты вінаваты сам! / Азірнуўся першы, паклікаў, абняў, скалечыў... <...> Я ж вінаватая, што не паспела збегчы, / Мне засталося толькі адно — пісаць... / Ты хацеў бы і гэта забраць у мяне? Канечне! / Каб не кардыяграма, а роўная паласа...».

Калі аўтар крыху спакайнее, робіцца больш удумлівай і лірычнай, чытаць яе значна цікавей. Часам Таццяна Сівец забываецца на перыпетыі складаных адносін з Ім і згадвае сур'ёзна, без надрыву, пра іншыя, не менш істотныя рэчы: гасціннасць і Бога, мора і вайну, Радзіму і волю. Паэт — не толькі чалавек, прызначаны на пакуту, вершы — не толькі магчымасць ператварыць боль і каханне ў слова. На творчасць можна глядзець інакш, і некаторыя вершы зборніка сведчаць, што Таццяна Сівец, магчыма, паспрабуе гэта зрабіць. Прыкладна палову кнігі складаюць пераклады, сярод якіх нямала выдатных твораў.

Калі сябры журы па чытанні паэтычных зборнікаў Людмілы Кебіч, Марыі Кобец і Таццяны Сівец захочуць адпачыць душой ад напружаных адносін лірычных герояў, то могуць разгарнуць, напрыклад, кнігу Алеся Пісарыка «Весенний поцелуй». Тут большасць вершаў прысвечана шчасліваму каханню, якое згадваецца ў акружэнні бэзавай квецені, салаўіных спеваў і анёлавых крылаў. Гэтак жа ўзнёсла і радасна Алесь Пісарык піша пра прыроду і родныя краявіды.

Яшчэ адна кніга, якая паляпшае настрой, — зборнік гумарыстычных вершаў Віктара Рэчыца «Паўцарства за ўсмех». Вясёлы калейдаскоп самых розных побытавых сітуацый, сямейных канфліктаў і павучальных гісторый дапамагае глядзець на жыццё з аптымізмам.

Бадзёры настрой перамагае меланхолію і ў кнізе Алеся Жыгунова «У храме радасці і смутку». Адметнасць гэтага зборніка — пачуццё свойскасці, бо лірычны герой не засяроджаны на складаных перажываннях, галоўнае для яго — стасункі са сваякамі, суседзямі, сябрамі. У сталым узросце усё часцей даводзіцца згадваць бацькоў і добрых знаёмых, якія даўно пакінулі гэты свет. У кнізе Алеся Жыгунова памяць робіць чалавека больш трывалым, замацоўвае непарушную сувязь мінулага і будучыні.

Зборнік Рагнеда Малахоўскага «Клічнікі дажджу» стаў нагодай для рэцэнзіі Жаны Капусты «У прадчуванні верша» («ЛіМ», № 41, 14 кастрычніка 2016), якая будзе выдатнай перасцярогай-папярэджаннем для маладых творцаў. Многія вершы Рагнеда Малахоўскага маюць арыгінальную ідэю, але ў пэўны момант замест таго, каб усцешыць чытача новым паваротам думкі альбо цікавым вобразам, аўтар напускае звыклага «паэтычнага туману», што прыкметна ўплывае на агульную ацэнку зборніка.

Унікальная кніга, якая намініруецца на Нацыянальную літаратурную прэмію, — «Венец природы» Мікалая Сярова. Гэта чатырнаццаты вянок вянкоў санетаў, які ўваходзіць у вянок вянкоў вянкоў санетаў *Corona areala corona sonnets*. Такога кшталту вопыт, у поўным аб'ёме здзейснены і апублікаваны, пакуль невядомы ў гісторыі літаратуры.

Дзякуючы працы ілюстратара Валерыі Яршовай, кніга мае годнае мастацкае афармленне. Што да зместу, то аўтар прыгожа і паэтычна піша пра веліч і таямніцу Боскай задумы, сэнс чалавечага і ўсеагульнага існавання, зносіны чалавека з Богам. Але калі знакамітыя санеты Шэкспіра сутнасныя і ёмістыя, то ў вершах Мікалая Сярова зашмат трывіяльнага. Зрэшты, няма сумнення, што «грандыёзная праца аўтара ўнікальная ў маштабах сусветнай літаратуры, і ўжо таму прыцягне ўвагу чытачоў, якія напраўду шануюць паэзію».

Яшчэ больш прывабіць чытачоў зборнік Анатоля Аўруціна «Просветление». У параўнанні з абстрактнай паэзіяй папярэдніх аўтараў, у творах Анатоля Аўруціна



Фота Анатоля Клешчука.

*Помнік літары «Ў».*

адлюстравана шмат жыццёвых рэалій: звыклыя рэчы могуць стаць паэтычнымі сімваламі, побытавыя сітуацыі дазваляюць узгадаць пра супярэчнасці і праблемы. Аўтар прадмовы Вячаслаў Люты бачыць тут «раскол между идеалом и горемычным земным бытом». Сапраўды, многія творы нагадваюць пра недасканаласць жыцця, але ў тым, магчыма, і цуд сапраўднай паэзіі, што гармоніяй слоў і трапнасцю радка яна адкрывае вышыню, нагадвае пра магчымасць прыгажосці ды нейкага вышэйшага суладдзя, і з гэтым адчуваннем вальней і радасней жыць у свеце. Таленавіты творца не апускаецца да таго, каб з сур'ёзнай нагоды перакідвацца ўрачыстымі, мілагучнымі словамі. Разам з тым кніга Анатоля Аўруціна дазваляе апынуцца ў тым выкшталцоным свеце паэзіі, дзе ліхтары, пальчаткі, радакцыя з друкаркай, Аляксандр Пушкін і Адам Міцкевіч, Барыс Пастарнак і Ганна Ахматава...

Напрыканцы хацелася б працытаваць верш Анатоля Аўруціна, які натхняе, асвятляе і нагадвае:

## Лампочка

*Как трудно освещать и лицезреть*
*Всего лишь стол, чернильницу, лекало…*
*И с полным напряжением гореть,*
*Когда иные тлеют вполнакала.*
*Выхватывать склоненные черты,*
*Их на стене размножить непохоже...*
*«А если, — убеждать себя, — не ты,*
*То кто же это сделает, то кто же?*
*На большее способна — не судьба…»*
*Простуженно гудеть от напряженья*
*И чувствовать — как всё-таки слаба*
*Вольфрамовая ниточка горенья!..*
*Светить всю ночь, до медлящей зари,*
*Потом перегореть в рассветном гуле,*
*Чтоб кто-то удивился: «Ты смотри,*
*А ведь недавно, кажется, ввернули…»*

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# да Лах-Нэса

з багатым светам флоры і фаўны нашай краіны, у вершах — з не менш багатай казачнай спадчынай. Прырода Беларусі падаецца праз легенды і паданні, звязаныя з яе сцяжынкамі. Фальклорны матэрыял адаптаваны пад патрэбы дзіцячай аўдыторыі, а надзвычай прыгожыя ілюстрацыі Валянціна Макаранкі ўдала дапаўняюць кожны сюжэт, што прывабіць да кнігі і самых маленькіх дзетак, якія яшчэ не засвоілі навыкі чытання. Па тэматыцы перагукаецца з «Возерам дзіва» вершаваная кніга Міколы Чарняўскага «Матуля Шо, дачушка Шоша». Яна прысвечана рэкам і азёрам Беларусі. Кніга спалучае мастацкія творы і дакладныя геаграфічныя звесткі: пасля верша змешчана выява возера ці ракі на карце Беларусі, а таксама невялікае, але падрабязнае энцыклапедычнае апісанне воднага аб'екта. Цешыць, што ў кола інтарэсаў аўтара трапілі не толькі вялікія рэкі. Ён не абмінуў увагай і менш заўважныя вадаёмы, падмацаваўшы свой выбар сапраўднай патрэбай: апошнім часам сярэднія і малыя рэкі Беларусі «змагаюцца за сваё выжыванне». Тэма экалагічнага выхавання моладзі зараз надзвычай актуальная, таму нельга не адзначыць каштоўнасць такой літаратуры для школьнікаў.



*Малюнкі Алесі Ісы.*

Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі сёлета прадстаўляюць ажно два аўтары: Анатоль Караленка з кніжкай «Дзецям пра нафту» і Яўген Калашнікаў з кнігай «Ксюша и её друзья». «Дзецям пра нафту» выйшла разам з кнігай «Матуля Шо, дачушка Шоша» ў серыі «Бібліятэка Асветыка», адведзенай для пазнавальнай дзіцячай літаратуры. Адзначана, што кніга прысвячаецца 50-годдзю нафтаздабычы ў Беларусі. Натуральна, у казачнай форме пра здабычу нафты беларускія дзеці дасюль не чыталі. Аўтар — былы майстар нафтапромыслу з трыццацігадовым стажам работы, таму за дакладнасць інфармацыі можна не хвалявацца; пра якасць мастацкага боку кнігі сведчыць медаль «За вялікі ўклад у літаратуру» і шматлікія літаратурныя прэміі, лаўрэатам якіх ён з'яўляецца. Дзе ў Беларусі здабываюць нафту, як гэта адбываецца, што з яе выраблююць — пра гэта і не толькі даведаецца чытач.

«Ксюша и её друзья» — адзіная рускамоўная кніга сярод намінантаў, да таго ж яе апавяданні маюць вершаваную форму. Аўтар, Яўген Калашнікаў, бярэ актыўны ўдзел у жыцці сваёй аўдыторыі, часта прыходзіць на сустрэчы з чытачамі ў бібліятэкі роднага горада. Блізкасць пісьменніка да дзяцей адчуваецца на старонках яго кнігі: персанажы гісторый атрымаліся рэалістычнымі, а іх прыгоды — свавольнымі і радаснымі. Няма тыповага «дарослага» погляду на рэчы: Я. Калашнікаў не прыніжае вартасць дзіцячых праблем, дазваляе галоўнай гераіне разам са сваімі сябрамі спазнаваць свет і трапляць у смешныя гісторыі. Не менш светлы погляд на дзяцінства мае і зборнік вершаў і апавяданняў Фёдара Гурыновіча «Галінка дабрыні», намініраваны ад Салігорскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы.

## *Пазнавальная геаграфія для маленькага чытача*

«Званочкі ў блакіце» — зборнік выбраных вершаў Івана Муравейкі. Івана Муравейку называюць патрыярхам дзіцячай літаратуры, бо за свае 95 гадоў пісьменнік падрыхтаваў шмат кніг для маленькіх чытачоў. У новы зборнік увайшлі яго найлепшыя творы за прамежак з 1955 па 2006 год, прысвечаныя прыродзе, радзіме, маральным якасцям чалавека. Заўважна, што кніга змяшчае не толькі вершы, але і вершаваныя загадкі: большасць з іх збудаваны вакол устойлівых выразаў, але ёсць і трапныя аўтарскія асацыяцыі, якія заслугоўваюць увагі.

Добрая дзіцячая казка прадстаўлена пісьменніцай Аленай Масла. Цікава, што ў кнізе «Мяне завуць Лахнэска» пісьменніца звярнулася да міфалогіі нашага стагоддзя: замест звыклых для маленькіх беларусаў казачных персанажаў перад імі паўстае Лахнэска, прататып знакамітай Нэсі з возера Лах-Нэс, якая збегла з дому… з-за здзекаў рыб. Апошні дыназаўр на Зямлі хвалюецца з-за сваёй знешнасці. Аўтар узнімае праблему індывідуальнасці: маленькі чытач спакваля зразумее, што чалавек прыгожы такі, які ёсць. Быць не такім, як усе, цяжка, але шчырае сяброўства можа дапамагчы ў прыняцці самога сябе: менавіта так адбываецца з галоўнымі героямі казкі апалонікам Апалонам і Лахнэскай.

Не менш цікавыя героі чакаюць сваіх чытачоў пад вокладкамі іншых кніг-намінантаў. Кнігі гэтыя разнастайныя, па-свойму адметныя і, безумоўна, вартыя чытання незалежна ад таго, хто пераможа.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Сёння мы даём слова творцам-палачанам, сярод якіх вядомыя майстры, як празаік, публіцыст, лаўрэат літаратурных прэмій Навум Гальпяровіч, і ўдзельнікі літаратурнага аб'яднання «Надзвінне», якія прызнаюцца ў любові роднаму гораду. Пра тое, што творчы дух у ім не знікае, сведчыць і наш сённяшні дэбют.**

## Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



### Човен Алеся Савіцкага

*Мне Савіцкі ўзгадваў, бывала, не раз,*
*Як яны разам з бацькам плылі на чаўне*
*Да Дзвіны па імклівай рацэ Палаце*
*І шукалі ў хмызах хітрамудрых ўюноў.*
*І так цяжка было мне ўсё гэта ўявіць,*
*Бо мая Палата абмялела даўно*
*І так проста нагамі яе перайсці.*
*Мы ўздымаліся разам на велічны вал,*
*Дзе ў сутонні густым палісадаў і дрэў*
*Прытулілася даўняя хата бацькоў*
*Дзевяностагадовага хлапчука.*
*А адтуль з вышыні — Палата, як змяя,*
*Ўвішнай стужкай сталёвай плыла да Дзвіны*
*І зліваліся з ёю. І далей плыла*
*Цёмнай дзвінскай вадой, у якой*
*Адлюстроўваўся горды Сафійкі анфас.*
*Гэты човен мне бачыцца сёння тады,*
*Калі хвіляй журботнай прыходжу ізноў*
*Да сакральнага месца на роднай зямлі,*
*Дзе зліваюцца рэкі пад выспай святой,*
*Дзе кідалі мы кветкі на хвалі Дзвіны*
*І пускалі Савіцкага ў вечны свой шлях.*
*І я думаў тады — яго човен даплыў*
*Праз усё мелкаводдзе да вольнай вады,*
*І далёка-далёка ён, горды, плыве*
*Аж да самага мора і горніх вышынь.*

### Ля Барысава каменя ў Полацку

*Гэты горды валун помніць хвалі Дзвіны,*
*Што стагоддзі яго абмывалі нясцпынна.*
*Ён стаяў непахісна, нібыта Айчына,*
*І пра полацкі дом бачыў мройныя сны.*

*Дакрануся да цёплага боку яго*
*І таемную споведзь Радзімы адчую,*
*Чысціню і спагаду, і веру святую,*
*І надзеі людской жыццядайны агонь.*

*І па жылах памкнецца стагоддзяў цяпло*
*І напоўніць істоту і моцай, і сілай,*
*Што заўсёды магутнай апорай было*
*Для сыноў і дачок на зямлі маёй мілай.*

### Мой скарб

*Гадамі яго я збіраў:*
*Жоўтую плынь Палаты,*
*Сланечнік у садзе маім,*
*Стромыя сосны ў бары,*
*Одум спрадвечны муроў,*
*Песні вясковых кабет,*
*Поціск далоняў сяброў,*
*Позірк аддапы жанчын,*
*Вусны каханай маёй,*
*Мудрасць прачытаных кніг,*
*Мовы крынічнай святло…*
*Ён не дастаўся дарма,*
*Я гэдак шчодра плаціў*
*Ціхай журботаю слёз,*
*Стогнам збалелай душы,*
*Сумам і горычу страт…*
*Гэта за ўсё даражэй.*
*Што ўсе дабротьі, калі*
*Гэтага мог я не мець!..*
*Шчасце, што гэта знайшоў.*

## Галіна ЗАГУРСКАЯ



### Магія слова

*«Пахне чабор» прамаўляеш, і бор*
*Ўраз паўстае, лугавіна за хатай,*
*Дзе на узгорку квітнее чабор…*
*Броўкава слова ўзлятае крылата.*

*«Пахне чабор». І ўжо лета пяе*
*Звонкагалоса і ў лузе, і ў полі*
*І цябе ў тую старонку заве,*
*Дзе зачалася паэтава доля.*

*«Пахне чабор». О, як пахне чабор!*
*Магія лета і магія слова.*
*Чуецца нотаў у іх перабор —*
*Гэта ж напеўная наша мова!*

*«Пахне чабор», — напісаў так Пятрусь,*
*Рушыў у свет, стаў народным паэтам.*
*Славіў заўжды ён сваю Беларусь,*
*І Беларусь яму ўдзячна за гэта.*

*Вуліцай Броўкі у Полацку йду,*
*Водар мядовы ад ліпаў ліецца,*
*І я сваю прыпыняю хаду:*
*Пахне чабор тут, усё ж мне здаецца.*

## Дэбют

## Ігар ПАЛЫНСКІ



Ігар Палынскі нарадзіўся, вырас і жыве ў Полацку. Яго імя ўжо вядомае маладзёжнай аўдыторыі — Ігар лідар полацкага рок-гурта Sumarok, які выступаў з канцэртамі па Беларусі. Як паэт і аўтар вядомы чытачам маладзёжных выданняў. У «ЛіМе» друкуецца ўпершыню.

**Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»**

***

*хацеў аддаваць словы паперы,*
*але забыў, як трымаюць асадку.*
*кроплі дажджу напужалі дзверы:*
*латунь ключоў становіцца вадкай.*

*хацеў аддаваць думкі палотнам,*
*ды пэндзаль дагэтуль спіць у краме.*
*начны эфір у тэлевізары вокнаў —*
*хлусіць сцэнар: усё не так паміж намі.*

*карміў працэсар: нулі і адзінкі.*
*карміў марскіх свінак: зерне і сена.*
*спяваў табе песні, ды трапіў ў Навінкі.*
*пісаў для КуКу — салют, «Чырвоная Змена»!*

*як мантажор перамешвае кадры,*
*як ты чытаеш класічныя кнігі,*
*так я бягу ад сваёй жа гітары*
*ў пекла вясновай адлігі.*

***

*ведаеш, што незвычайна?*
*калі страшна,*
*што нельга баяцца.*
*чувац вокліч адчаю*
*і незаўважна*
*змагацца.*

*верыш, можа быць, бачыш,*
*чуеш, як падаюць вежы,*
*дыхаеш ветрам снежню.*
*тэлеперадачы —*
*чуткі трымцяць павуціннем.*
*камеры-вочы змусяць*
*верыць у лёс Беларусі*
*шчаслівы.*

*ведаеш, што непакоіць?*
*калі блізка*
*выбух смерці.*
*спадзяешся прымроіць,*
*а ў крыві віскі.*
*а ў галаве чэрці.*

### не любі мяне

*не любі мяне.*
*шукай не мяне.*
*тампліеры па сэрцах танчаць сцюдзёнае танга.*
*не шкадуй мяне.*
*даруй не мне.*
*рызыкуй не паспець выкрыць тых, хто ніжэй па рангу.*

*і калі тэлефон скажа мне,*
*што чарговыя песні ў сне*
*разаб'юцца ў лісце*
*і казкі душ чыстых —*
*затрымаецца плынь сакральнай ракі*
*і адчуецца дотык любімай рукі.*

*помні мяне.*
*не забудзь мяне,*
*калі нават сканаю і птушкай ўзарву нябёсы.*
*прабач мяне,*
*кахай мяне!*
*гэты шлях нам зададзена поруч прайсці самім Лёсам.*

## Феактыст ФЯДОТАЎ



### Супрацьстаянне

*Полацк мой! Я стаю, як і ты,*
*На зялёным надзвінскім узвышшы.*
*Б'юць з нябёс у Грамах перуны,*
*Разрываючы сонлівасць цішы.*

*А за сполахам вогненных дзід*
*Праплываюць стагоддзяў падзеі.*
*Тут сумленне — галоўны мой гід,*
*Што ад цемры вядзе да надзеі.*

*Трэба ўсё ж такі нам зразумець:*
*Мы на гэтай зямлі назаўсёды!*
*І што будуць грымоты грымець,*
*Покуль самі не зведаем згоды.*

*Покуль будзем няпраўду трываць,*
*Сарамліва хаваючы вочы,*
*І баяцца, баяцца назваць*
*Тых, хто Полацк паліць быў ахвочы.*

*Тых, хто летапіс Полацкі скраў,*
*Каб забіць у вяках нашу памяць.*
*Хто Сафійскі сабор узрываў,*
*Каб святыняў народ наш пазбавіць.*

*Хто падзелы рабіў на крыві,*
*Адбіраючы родную мову.*
*Нават назву крывіцкай Літвы*
*Перайначыў у іншыя словы.*

*Полацк мой! Ты і сябар, і брат!*
*І я іншай зямлі не шукаю.*
*І таму тых стагоддзяў набат*
*Я выразна штодзень адчуваю.*



Фота Анатоля Клешчука.

Новы мост праз Дзвіну.

## Ала ШВАЙКО



### Сапфірам сінім…

*Валова возера як след*
*Хавае ў нетрах таямніцы,*
*Ў яго ўзіраецца сусвет,*
*Калі зазяе Мілавіца.*

*І цішыня… Нуда пачвар…*
*Даўно тут знічаў зніклa племя.*
*Варожыць тут начны ўладар —*
*Вядзьмаркай кінутае семя.*

*Чарот маркоціцца, і ў сне*
*Лілеі зачынены куфэркі.*
*Шчупак знянацку паласне*
*Вады чароўнае люстэрка.*

*Ці тут міфічны Фаэтон*
*Знайшоў апошні свой прытулак,*
*І ці не прывідам вось ён*
*Блукае ў лабірынце вулак?*
*І толькі ранак данясе*
*Да спеваў птушак звон ад Спаса —*
*Патухнуць чары пакрысе,*
*Усё знікае пэўным часам.*

*А возера — вякі сплылі —*
*Лагодна месціцца пад сонцам,*
*Ляжыць у матухны-зямлі*
*Сапфірам сінім на далоньцы.*

Пятро
ВАСЮЧЭНКА



# КАЗКІ ДЛЯ ЗЕЛЕНАВОКАЙ

## Вечар першы

### ПРА ТОЕ, ЯК У МАІМ СВЕЦЕ З'ЯВІЛАСЯ ЛІЛІ

Адкуль яна з'явілася, гэтая дзяўчынка? З камп'ютара.

На пачатку нашых сустрэч я нават не ведаў яе імя. Не ведаў, хто яна такая.

Перад нашай сустрэчай я меркаваў, што яна будзе мне накшталт сакратара. Будзе дапамагаць рэдагаваць мае тэксты.

Але я памыляўся. Як толькі я ўваходзіў у яе свет, мне ўяўлялася сельва, трапічныя джунглі, перапоўненыя атрутнымі барвовымі слімакамі і ікластымі піраннямі, а сельва глядзіць на яго халоднымі смарагдавымі вачыма. Так глядзела на мяне тым часам Лілі.

Яе нораў пачаў акрэслівацца неўзабаве, пасля таго як яна стала выпраўляць мае «памылкі». А паколькі я пісаў па-беларуску, дык яна з халоднаю насмешкай падкрэслівала кожны мой радок суцэльнай чырвонай хвалістай рысай. Яна проста не ведала беларускай мовы.

Але гэта не перашкодзіла ёй прачытаць мае казкі і падкрэсліць увесь тэкст гэтай насмешлівай чырвонай рысай. Некранутымі засталіся словы тыпу «ох» або «так». Так я зразумеў, што яна любіць кароткія словы і чамусьці адгадаў яе імя, таксама кароткае. Гэта было сярэдняе паміж Ліліт і Лалітай. Лілі. Яе звалі ЛІЛІ.

Беларускай мовай яна авалодала, як усе здольныя дзяўчаткі, лёгка. Далей яна пачала дэманстраваць мне свае веды, насмешліва зіркаючы вачыма колеру сельвы за маёй рэакцыяй.

Тады я і зразумеў, што Лілі — юная дзяўчына. Бадай што дзяўчынка.

Аднойчы мне падалося, што яна памірае. Магчыма, у яе цела прабраўся няўлоўны, непадуладны ніякаму кантролю вірус.

Ёй было блага. Мне здавалася, што я чую яе цяжкое дыханне.

А потым я пачуў смех. З'едлівы, звонкі. Як быццам яна разыгрывала мяне. Але я й цяпер перакананы, што яе хвароба не была ўдаванаю.

Можа стацца, яна выконвала ролю чалавека. Маю ролю.

Бо мне стала гэтаксама млосна, калі я пачуў гэты бесклапотны электронны смех.

Памятаю, як цяпер: холад і жах у сярэдзіне, як быццам праглынуў лядзяш памерам у аранжа.

Я падумаў, што яна перастане паміраць, калі я адключу камп'ютар, і я адключыў.

Але яна не знікла. Вось Лілі побач са мной у пакоі, зеленавокая, у кароткай спадніцы, з тонкім залатым ланцужком на шыі.

— Кінь гэтыя забаўкі з тэкстам, — кажа яна мне. — Хадзем у мой свет. Там табе будзе добра. Ты будзеш там шчаслівы, як у той дзень, калі ты злавіў першага ў сваім жыцці шчупака. Памятаеш, які ён быў плямісты, які зубаты і які класны, малады ад яго ішоў пах? Бы свежаскошаная трава. У маім свеце таксама пахне зялёным сенам, табе там будзе восем гадоў, і ты будзеш шчаслівы. У маёй краіне няма мітусні і болю. Там красуюць крышталёвыя кветкі і пануе спакой. Хадзем!

— Куды ты цягнеш мяне, Лілі? — адказваю я ёй. — Я ведаю, ты хочаш, каб я памёр. Рана яшчэ. Я свае справы не парабіў. Не напісаў галоўнай сваёй кнігі. Клёцак не наеўся. У мяне на вячэру клёцкі з душой. Хочаш?

— Не ем клёцак. Зусім нічога не ем, — кажа Лілі. — А хто ўвогуле напісаў сваю лепшую кнігу. Адкуль яны ведаюць, што яна лепшая за ненапісаныя? Пакутнікі! Паглядзі на сябе. Угнуўся над клавіятурай, бы кручок. Небарака ты!

— Ужо ж не болей небарака, чым фізік Барталамеус, — кажу я.

— А хто такі фізік Барталамеус? — пытаецца Лілі.

Вядома, цікаўная, як і ўсе дзяўчынкі.

— Заўтра, Лілі, — кажу я. — Сёння ўжо позна. Прыходзь заўтра.

— Прыду, — абяцае яна.

## Вечар другі

### ПРА НЕБАРАКУ БАРТАЛАМЕУСА

Калі немаўля сядзіць на руках у маці і глядзіць на вас, вам падаецца, што яно бачыць вас наскрозь, прачытвае ваша мінулае і будучыню. Гэтак углядаецца ў мяне мая Лілі.

— Дык што ты можаш распавесці пра небараку Барталамеуса? — пытаецца яна, пратрымаўшы мяне хвілін пятнаццаць пад сваім зеленавокім рэнтгенам.

Я пачынаю.

«Казалі, што фізік Барталамеус жыццё паклаў на тое, каб паяднаць веру і веды, і пачаў з першага верша кнігі Быцця: "Напачатку стварыў Бог неба і зямлю". Ён апрануў гэты сказ у формулу, такую даўжэзную, што не змясцілася б у школьным падручніку па фізіцы. За такое здзяйсненне варта было б прысудзіць яму Нобелеўскую прэмію ў адзін мільён еўра. Але ніхто не здолеў дачытаць гэтую формулу да канца, таму Барталамеус не атрымаў Нобелеўскай прэміі.

Жонка на яго за гэта не сварылася, бо сышла ад Барталамеуса. Дзяцей у яго не было таму, што ад яго сышла жонка. Такая вось штука.

За сваю формулу заплаціў ён лепшымі гадамі свайго жыцця. Валасы яго павылазілі, зубы павыкрышыліся. Спіс яго хвароб быў не карацейшы за яго формулу. Пакутаваў ён на сіндром Альцгеймера, сіндром Бада, сіндром Вернера, сіндром Гофмана, сіндром Жохмана, сіндром Каплана, сіндром Леніна-Сталіна, сіндром Маркса-Энгельса, сіндром Прадэра-Вілі, сіндром Мендэльсона, сіндром Кацнельсона, твар Гіпакрата, скокі святога Віта, ліхаманку Эбола і ліхаманку Труляля...»

— Чакай, чакай! — перапыняе зеленавокая Лілі. — Нашто маленькіх падманваеш. Не можа ў адным чалавеку змясціцца столькі хвароб. Падманваеш маленькіх.

— Не можа, — згаджаюся я. — Відаць, у фізіка была адна хвароба. Але налецелі на яго лекары, расцягалі яго вялікую хваробу на шматкі і надалі кожнай маленькай немачы свае імёны. Можа, нехта і Нобелеўскую прэмію атрымаў за адкрыццё новай хвароба, напрыклад, ліхаманкі Труляля. Даруй, Божа, лекарам, што напладзілі гэтыя немачы і ўсё на гэтага беднага чалавека. А ў фізіка Барталамеуса, можа, ніякай хваробы й не было, апрача адной, вялікай крыўды на ўвесь свет.

— Іншая справа, — згаджаецца са мною Лілі.

Я працягваю.

«Дык вось аднаго разу фізік Барталамеус адарваў вочы ад сваіх прылад і ад формулы і ўзняў голас да неба: "Завошта, Божа?"

Тут перад фізікам паўстаў яго добры анёл і запытаўся: "Чаго ты благаеш?"

"Жонкі ў мяне няма, і дзяцей няма, і Нобелеўскай прэміі я не маю, хоць вынайшаў формулу пачатку існага", — пачаў жаліцца фізік.

"Каму яна здалася, твая формула, доўгая, як пуга. У Бібліі ўсё памяшчаецца ў адным сказе. Спачатку было Слова", — паўшчуваў Барталамеуса яго добры анёл.

Але фізік не слухаў яго і працягваў гаварыць.

"Нешчаслівы я! Мне горш, чым Ёву, бо ён зазнаў гады шчасця, меў жонку і дзяцей, і валоў, і вярблюдаў, і авечак, І ўсё страціў, і потым да яго ўсё вярнулася, і нават жонка і дзеці, а што да мяне вернецца, калі я нічога не маю? Забыўся на мяне Гасподзь".

"Гасподзь ні на каго не забываецца, — казаў добры анёл. — Хадзі са мной! Зараз я пакажу табе штосьць, і ты знойдзеш суцяшэнне".

І ён павёў Барталамеуса да тапаляў, пад якімі абрываўся асфальт і смурод горада... Там анёл адшукаў пакрыты сівым лішайнікам камень і перавярнуў яго...»

— І што там было? — нецярпліва пытаецца Лілі.

— Заўтра, дзяўчынка, заўтра, — сонным голасам прамаўляю я.

— Пайшлі са мною. Па дарозе дакажаш, — настойвала Лілі.

— Не, лепш ты прыходзь да мяне заўтра.

## Вечар трэці

### ПРА НЯЎЦЕШНАГА ЧАРВЯЧКА І ВУЧАНАГА КРАТА

— І што там было, пад каменем? — пацікавілася Лілі наступным вечарам.

— Пра што я табе распавядаў, дзіця?

— Пра тое, як добры анёл павёў Барталамеуса да тапаляў, пад якімі абрываўся асфальт і смурод горада... Там анёл адшукаў пакрыты сівым лішайнікам камень і перавярнуў яго... Я хачу ведаць, што там было.

— Паслухай, дзяўчынка, няхай Барталамеус пастаіць крыху над каменем і падумае пра сваю долю. А мы з табой зазірнём пад зямлю і паслухаем размову якогась чарвячка з якімсь кратом.

«Чарвяк таксама лічыў сябе небаракам, але меў свайго добрага анёла і таму жаліўся на сваю долю вучанаму Крату:

— Я ніколі не бачу дзённага святла...

— І я не бачу святла, — адказваў яму Крот.

— Я ніколі неператваруся ў матылька, як падобныя да мяне вусені!

— І я ніколі неператваруся ў матылька, — суцяшаў яго Крот.

— Я ніколі не ведаў, што такое шчасце, — румзаў Чарвячок.

— Ты забыўся, як надоечы купаўся ў калюжыне, калі наверсе ішоў дождж? Ці ж то было не шчасце?

Але Чарвяк быў няўцешны, бо не мог задаволіцца тым, чым задавальняюцца людзі. Ён не ведаў, што людзей суцяшае адно чужое няшчасце. Ён прарочыў сабе ліхую долю: і куры яго задзяўбуць, і да рыбалова на кручок трапіць. Аж пакуль Крату не надакучыла.

— Мы з табой няроўныя, але падобныя, — сказаў яму нарэшце Крот. — Мы сваёй нябачнай працай рухаем жыццё на паверхні зямлі.

— А сэнс? — запярэчыў Чарвячок. — Ніхто добрым словам не ўзгадае.

— Сядзі ў сваёй дзірцы і чакай, — прапанаваў Крот Чарвячку. — Аднойчы над табою раскрыецца неба, і ты пабачыш, што ніхто на цябе не забыўся.

І аднойчы неба раскрылася. Гэта здарылася тады, калі добры анёл Барталамеуса перавярнуў камень.

— Бачыш гэтага чарвячка? — гучаў голас добрага анёла. — Няма істоты больш мізэрнай і бездапаможнай, але і пра яго памятае Гасподзь і надзяляе яго сваёй ласкай.

— Бачыш гэтую істоту? — гучаў голас вучанага Крата. — Ён не мае жонкі і дзяцей, не мае Нобелеўскай прэміі, усе хваробы свету накінуліся на яго, але і ён не абдзелены калівам чалавечага шчасця...»

Я змаўкаю.

— І што далей? — пытаецца Лілі. — Што яны рабілі далей?

— Што рабілі? Вось так і тапазіліся адно на аднаго... Няхай паглядзяць. Заўтра, Лілі, заўтра.

**Працяг будзе.**



Фрэскі Спаса-Праабражэнскай царквы Спаса-Еўфрасіннеўскага стаўрапігіяльнага жаночага манастыра ў Полацку. У храме вядуцца рэстаўрацыйныя работы.

Фота Анатоля Клешчука.



Страчаная святыня Беларусі — Крыж прападобнай Еўфрасінні, выраблены майстрам Лазарам Богшам. Аднаўленая копія, створаная мастаком Мікалаем Кузьмічом, знаходзіцца ў Свята-Еўфрасіннеўскім манастыры ў Полацку.

# УЗАЕМАРАЗУМЕННЕ І РАЗНАСТАЙНАСЦЬ

**Полацк, які ад пачатку знаходзіўся на скрыжаванні шляхоў, вымушаны быў выбудоўваць дыялог з прадстаўнікамі розных культур. І цяпер горад у цэнтры Еўропы прыцягвае шматлікіх гасцей, а дыялог культур ідзе ўжо на дзяржаўным узроўні. І не толькі ў дні свята: беларуская культура адкрыта да кантактаў і спазнання іншых. Пра гэта сведчаць нават старонкі беларускіх літаратурных часопісаў. «Полымя», «Нёман», «Маладосць» рэгулярна публікуюць пераклады твораў замежных аўтараў, робяць інтэрв'ю з літаратарамі іншых краін, рыхтуюць літаратуразнаўчыя артыкулы. Нават у часопісе для дзяцей «Бярозка» знаходзіцца месца для літаратуры замежжа. Пра значнасць культурных зносін паміж краінамі распавялі галоўныя рэдактары вядучых літаратурных часопісаў Беларусі.**



**Аляксей ЧАРОТА, галоўны рэдактар часопіса «Нёман»:**

— Любая літаратура, і беларуская літаратура ў прыватнасці, не можа жыць і развівацца сама па сабе. Для яе паспяховага існавання патрэбны ўзаемны абмен, пранікненне ў культуру розных краін. Калі мы друкуем творы замежных аўтараў, у той жа час даём штуршок для развіцця нашых пісьменнікаў. Незалежна ад жадання беларускіх літаратараў, сусветная літаратура ў той ці іншай ступені ўплывае на іх творы. Калі ў адной краіне ёсць нешта, чаго няма ў нас, і гэта зацікавіла беларускіх аўтараў, яны могуць прыўнесці штосьці новае ў нацыянальную літаратуру. Чытачы часопіса, у сваю чаргу, атрымліваюць магчымасць пазнаёміцца з рознымі тэкстамі. Мы ўзбагачаем сваю літаратуру за кошт твораў на іншых мовах.

Што тычыцца замежных кантактаў, калегі з былых краін СНД кажуць, што Беларусь знаходзіцца ў лідарах па міжнародных стасунках. У нас ладзіцца шмат міжнародных мерапрыемстваў. Гэта і Дзень беларускага пісьменства, да якога прымеркаваны міжнародны круглы стол, што з'яўляецца пляцоўкай для сустрэчы літаратараў з розных краін, і Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш з сімпозіумам «Пісьменнік і час». Прадстаўнікі краін постсавецкай прасторы часта дзякуюць беларускаму боку за карысную справу аб'яднання аўтараў. Часопіс «Нёман» таксама падтрымлівае сяброўскія сувязі з іншымі краінамі. У нас стабільна выходзяць творы аўтараў блізкага замежжа. У рубрыцы, якая называецца «Сябрына», змяшчаюцца творы прадстаўнікоў краін СНД і былога Савецкага Саюза. Ёсць рубрыка «"Сусветная літаратура" ў "Нёмане"», дзе мы друкуем пераклады з літаратур далёкага замежжа, навуковыя і крытычныя артыкулы, прысвечаныя навінам у літаратурным свеце іншых краін. На электронную пошту «Нёмана» прыходзяць творы і матэрыялы практычна з усяго свету, пачынаючы з Расіі і заканчваючы Германіяй, Ізраілем, ЗША. Звычайна аўтары, што самі прапануюць тэксты, нейкім чынам звязаны з Беларуссю. Ёсць і зваротная сувязь: калі нам патрэбны твор замежнага пісьменніка, мы можам знайсці яго кантакты і атрымаць дазвол на публікацыю перакладу.

Перыядычна з'яўляюцца спецыяльныя выпускі, якія рыхтуюцца сумесна з замежнымі часопісамі. Прыклад такіх сувязей — стасункі з расійскім часопісам «Наш современник». Мы рэгулярна рабілі абмен: у нас выходзіў расійскі нумар, у іх — беларускі. Супрацоўнікі «Нашего современника» падбіралі матэрыялы з таго, што друкавалася ў іх часопісе, мы адбіралі самае цікавае і пазнавальнае з нашага. Такі ж досвед супрацоўніцтва маем і з часопісам «Балтыка», які выходзіць у Калінінградзе, і з танжыкістанскім часопісам «Памір». Такая праца цікавая для ўсіх: сувязі паміж краінамі ўжо не такія шчыльныя, як раней, і чытачам кожнай краіны цікава даведацца, што адбываецца ў літаратуры суседзяў.



**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ, галоўны рэдактар часопіса «Полымя»:**

— У плане міжнароднага культурнага супрацоўніцтва пазіцыя «Полымя» шматвектарная, са сваімі ўстойлівымі традыцыямі. У кожным канкрэтным кірунку распрацаваны асобны спіс імёнаў і твораў, бо кантакты складаліся дзесяцігоддзямі. Напрыклад, возьмем славацкі напрамак. Яшчэ ў 1998 годзе выйшаў нумар часопіса «Полымя», прысвечаны літаратуры Славакіі, адказам на які стаў тэматычны беларускі нумар у Браціславе. Зараз мы працягваем гэтае пачынанне праз сувязь з дыпламатам, перакладчыкам, паэтам Мар'янам Сэрваткам. З намі часта супрацоўнічаюць перакладчыкі. Часопіс «Полымя» падтрымлівае самыя шчыльныя сувязі з Інстытутам літаратуразнаўства Акадэміі навук, а таксама з універсітэтамі, дзе рыхтуюць спецыялістаў па замежных мовах.

Не будзем забывацца на тое, што надрукавацца ў «Полымі» — пачэсная справа не толькі для нашых пісьменнікаў, але і для замежных. Лагічна, што кожны аўтар зацікаўлены, каб яго ведалі за мяжой. Гэта паказчык статусу: плюс яшчэ адна мова, на якую перакладзены творы літаратара. Тым больш што для многіх аўтараў беларускі напрамак яшчэ не асвоены, і яны самі імкнуцца для нас. Сёння ў «Полымя» пішуць прадстаўнікі розных генерацый. Мы захоўваем традыцыі супрацоўніцтва і ў той жа час адкрыты для кантактаў з тымі, хто толькі пачынае свой шлях да беларускай культурнай прасторы.

Пры выбары тэмы ўлічваецца актыўнасць аўтараў і перакладчыкаў, якія знаходзяцца ў камунікацыі з часопісам, інтарэс даследчыкаў, што супрацоўнічаюць з намі, а таксама цікавасць часопіса да пэўных краін і падзей. Праца з аўтарамі-замежнікамі вядзецца ў пастаяннай рубрыцы перакладаў «Галасы свету», перыядычна з'яўляюцца навуковыя публікацыі па крытыцы і літаратуразнаўстве. Апошнім часам часта робім нумары, прысвечаныя літаратурам іншых краін. Перспектыўныя кірункі працы ў найбліжэйшы час — Украіна, Расія, Польшча, Чэхія, Славакія, Румынія, Венесуэла, Кітай. Зараз наладжваем супрацоўніцтва з Румыніяй. У апошнія дзесяцігоддзі румынская літаратура не была шырока прадстаўлена на старонках беларускіх часопісаў, а гэта зайважная краіна ў розных галінах мастацтва. Напрыклад, румынскую кінашколу лічаць адной з самых цікавых у Еўропе.

Распрацоўкай рубрык з перакладамі ў часопісе займаецца паэтка, перакладчыца, купалазнаўца Юлія Алейчанка. Кандыдат філалагічных навук літаратуразнаўца Мікола Трус адказвае за навуковыя літаратуразнаўчыя публікацыі. Так, зараз мы рыхтуем сюрпрыз не толькі для беларускай аўдыторыі, але і для ўсяго англамоўнага свету. У распрацоўцы знаходзіцца ўзор замежнай класікі, дагэтуль невядомы шырокай аўдыторыі, — пераклад Шэкспіра на беларускую мову, які ажыццявілі прыкладна 90 гадоў назад. Спадзяюся зацікавіць чытачоў яшчэ адной навінай: «Полымя» планує пачаць 2018 год з публікацыі рамана «Пракурорка» ў перакладзе Веранікі Бандаровіч — кнігі Тадэвуша Даленгі-Мастовіча, вядомага нашаму чытачу па рамане «Знахар».



**Святлана ВОЦІНАВА, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць»:**

— Самае істотнае ў супрацоўніцтве з замежнымі аўтарамі — паказаць нашым маладым чытачам (а некаторыя з іх — пісьменнікі), як пішуць іх равеснікі за мяжой, якія зараз тэндэнцыі і кірункі ў сусветнай прозе і паэзіі. Можна доўга казаць пра неабходнасць культурных сувязей у тэорыі, але вынікі супрацоўніцтва варта ўлічваць на практыцы. Праз пераклады атрымліваецца нешта падобнае да майстар-класа: мы маем агульнае ўражанне пра творчасць замежнікаў, даведваемся пра запатрабаваныя ў іх тэмы, пра стылістыку аўтараў. У мінулым годзе мы надрукавалі пераклад твора польскай пісьменніцы Ганны Аўгустыняк «Я кахала, калі яна адышла». Гэтая незвычайная проза перавярнула свядомасць і нашай рэдакцыі, і нашых чытачоў. На твор вельмі цікава і неадназначна адгукаліся польскія спецыялісты ў галіне літаратуры, таму я наўмысна папрасіла даць у друк і каментарыі да яго, каб дапамагчы нашаму чытачу правільна ўспрыняць прачытанае.

Да міжнароднага супрацоўніцтва ў часопісе «Маладосць» падыходзяць з трох розных бакоў. Першы — гэта падрыхтоўка традыцыйнага жнівеньскага нумара, прысвечанага Дню беларускага пісьменства. Штогод у жнівеньскім нумары «Маладосць» прадстаўляе замежных аўтараў. Адбываецца ўзаемны рух: мы робім свае прапановы, а нас успрымаюць як пляцоўку для друку. Вельмі прыемна, калі прозвішча пісьменніка на старонках часопіса супадае з імем у спісе гасцей круглага стала, бо тады можна сустрэцца і асабіста. Акрамя размяшчэння перакладаў паэтаў і празаікаў краін СНД, ладзім рэдакцыйныя праекты. Сёлета такі праект — падарунак беларускім Песнярам, пераклады двух вершаў Янкі Купалы і Якуба Коласа на рускую, украінскую, польскую, сербскую, англійскую, шведскую мовы з каментарыямі. Акрамя таго, у «Маладосці» ўсталяваліся добрыя адносіны з польскім часопісам «Падляскі квартальнік культуральны». Штогод у адным з восеньскіх нумароў «Маладосць» змяшчае пераклады аўтараў з Падляшша. Яшчэ адзін момант — штомесячны блок «Пераклады», дзе друкуюцца работы студэнтаў апошніх курсаў Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, з якім мы супрацоўнічаем ужо не першы год. Практыканты адкрываюць нашым чытачам сучасных модных замежных пісьменнікаў. Калі размова ідзе пра сучасных аўтараў, заўсёды кажу студэнтам: вы першыя перакладчыкі гэтага пісьменніка на беларускую мову. Часам гэтыя творы яшчэ не паспелі перакласці нават на рускую мову, а на беларускай, дзякуючы вашай працы, яны ўжо прачытаны. Калі нехта звяртаецца да класічных твораў, мы ўхваляем і такую працу: тое, што яшчэ не гучала па-беларуску, заўсёды адкрыццё для нашай літаратуры.



**Кацярына ЗАХАРЭВІЧ, галоўны рэдактар часопіса «Бярозка»:**

— Кажуць, нацыянальная мова жывая, пакуль на яе перакладаюць замежную літаратуру. Для дзяцей, якія толькі пачынаюць знаёміцца з беларускай культурай, важна спазнаць яе ў кантэксце культуры сусветнай, і пераклады твораў іншых краін на беларускую мову дапамагаюць зразумець той кантэкст. Формула для друку твораў аднолькавая: і беларускія, і замежныя тэксты трэба выбіраць так, каб зацікавіць падлеткаў, бо чытаць нікога не прымусіш. Чым больш разнастайнай літаратуры ў часопісе — тым больш адукаванымі будуць нашы чытачы.

Лічу, што ў «Бярозцы» павінны і далей друкавацца пераклады сучасных аўтараў на беларускую мову. Не толькі спрактыкаваных пісьменнікаў, але і пачаткоўцаў: напрыклад, нядаўна нам даслала сваё апавяданне школьніца з Расіі. Год таму падводзілі вынікі конкурсу «Туркменістан вачыма дзяцей», дзе актыўна ўдзельнічалі нашы чытачы, а ў снежні плануем выдаць прысвечаны кітайскай культуры нумар сумесна з экспертамі інстытута Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Выдатна, што ў «Бярозцы» такую тэму можна асвятляць шырэй, чым, напрыклад, у літаратурным часопісе для дарослых: мы звернем увагу не толькі на літаратуру, але і на навуку Кітая, імідж краіны ў Беларусі.

Паэтэса з Іспаніі Анхела Эспіноса піша вершы на беларускай мове. У інтэрв'ю для «Бярозкі» яна распавяла пра беларускую мову з пункту гледжання замежніка. Мы даведаліся, як наша гаворка ўспрымаецца ў неславянскіх краінах, і гэта была сапраўдная матывацыя для чытачоў!

**Падрыхтавала Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



*Помнік крывічам.*

# Нашы кнігі — кітайскаму ўніверсітэту

**Напрыканцы чарговай Пекінскай кніжнай выстаўкі падарунак ад беларускіх кнігавыдаўцоў атрымаў Другі Пекінскі дзяржаўны ўніверсітэт замежных моў.**

І гэты кніжны падарунак, які стане складнікам ужо існуючай беларускай бібліятэкі, зусім не выпадковы. Яшчэ раней кнігі і беларускія літаратурна-мастацкія перыядычныя выданні ва ўніверсітэт перадавалі Выдавецкі дом «Звязда», Саюз пісьменнікаў Беларусі: ва ўніверсітэце працуе Цэнтр даследаванняў Беларусі. Пра гэта нашаму карэспандэнту расказвае доктар філалагічных навук спадарыня Чжан Хуэйцінь:

— Мы вельмі ўважлівыя да грамадска-палітычнага жыцця Беларусі. Заахвочваем нашых аспірантаў, магістрантаў і студэнтаў да вывучэння працэсаў у палітыцы, эканоміцы, культуры, асветніцтве вашай краіны. Зараз падрыхтавалі зборнік нарысаў пра пісьменнікаў, мастакоў, палітыкаў. Канечне, сярод герояў гэтай кнігі, да аўтарства якой і я спрычынілася, — Францыск Скарына, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч.

У пакоі Цэнтра даследаванняў Беларусі, спрыянне ў развіцці якому аказвае Пасольства Рэспублікі Беларусь у Кітайскай Народнай Рэспубліцы, — не толькі кнігі, але і шырокі падбор ілюстрацыйнага матэрыялу, прысвечанага знакамітым асобам Беларусі. А ў планах гэтай сапраўднай амбасады беларуска-кітайскай дружбы — далейшае развіццё адносін паміж дзвюма краінамі. Дарэчы, спадарыня Чжан Хуэйцінь уваходзіць у склад міжнароднага рэдакцыйнага савета кніжнай серыі «Светлыя знакі: паэты Кітая», якая выходзіць у Выдавецкім доме «Звязда».

**Кастусь ЛАДУЦЬКА,**
*Кітай, г. Пекін*

# ПРАГРАМА ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

## 1 верасня

| | |
|---|---|
| 09.00 — 10.00 | Плошча Францыска Скарыны<br>**Урачыстая лінейка, прысвечаная Дню ведаў «Мы ганаровае імя Скарыны нясём».** |
| 10.00 — 11.00 | **Урачыстае адкрыццё Скарынаўскай алімпіяды.** |
| 11.00 — 13.00 | Стацыянарная выстаўка<br>«Прагулка па Ніжне-Пакроўскай» (Домік Пятра I)<br>*(вул. Ніжне-Пакроўская, 33).*<br>*Гістарычная рэканструкцыя «Падарожжа ў школу мінулага: адзін дзень з жыцця гімназісткі XIX ст.»* |
| 11.00 — 15.40 | Пляцоўка ля помніка Сімяону Полацкаму<br>**Дзіцяча-маладзёжны фэст «Полацк, ты — крыніца натхнення».** |
| 11.00 — 15.40 | Пляцоўка каля памятнага знака «Полацк — геаграфічны цэнтр Еўропы» *(алея па пр. Францыска Скарыны)*<br>**Праект «Музычная скарбонка».** |
| 11.00 — 15.40 | Пляцоўка ля помніка Ефрасінні Полацкай *(вул. Талстога, 6)*<br>**Фестываль «Вялікай асветніцы прысвячаецца...».** |
| 12.00 — 15.00 | Вялікая зала Полацкага райвыканкама *(пр. Ф. Скарыны, 10)*<br>**«Нашчадкі вялікага Скарыны».**<br>Літаратурна-музычная гасцёўня «Спеў аб Еўфрасінні». Феерверк талентаў «Калейдаскоп творчасці». Кніжная выстаўка «Жывое слова Скарыны» і інш. |
| 12.00 — 16.00 | Пляцоўка каля памятнага знака літары «Ў» *(алея па пр. Францыска Скарыны).*<br>Праект-дзённік **«Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына...».** |
| 12.00 — 16.00 | Музей традыцыйнага ткацтва Паазер'я *(вул. Войкава, 1)*<br>**Літаратурна-музычны праект «Асветніка зямлі беларускай услаўляючы...».** |
| 14.00 — 16.00 | Сафійскі сабор *(вул. Замкавая, 1)*<br>**Музычна-паэтычны праект «У пачатку было слова...».** |
| 16.00 — 17.00 | Нацыянальная бібліятэка Беларусі<br>**Гашэнне маркі і паштовага канверта, прысвечаных 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.** |

## 2 верасня

| | |
|---|---|
| 11.00 — 12.00 | вул. Юбілейная — вул. Камуністычная — вул. Е. Полацкай — плошча Свабоды<br>**Урачыстае шэсце, прысвечанае 1155-годдзю горада Полацка, 500-годдзю беларускага кнігадрукавання, Дню беларускага пісьменства.** |
| 12.00 — 14.00 | Плошча Свабоды<br>**Урачыстае адкрыццё Дня горада.**<br>**Святочны канцэрт.** |
| 12.00 — 14.00 | Музей беларускага кнігадрукавання *(вул. Ніжне-Пакроўская, 22)*<br>**Міжнародны круглы стол беларускіх і замежных літаратараў, прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання «Дыпламатыя слова: Францыск Скарына ў сусветнай гуманітарнай прасторы».** |
| 11.00 — 20.00 | Зялёная пляцоўка ля помніка Р. І. Кандрацэнку<br>**Выстаўка «Горад у макетах».** |
| 12.00 — 13.30 | Полацкі гарадскі палац культуры *(вул. Гогаля, 15)*<br>**Прэзентацыя вынікаў абласнога конкурсу кнігі «Кнігу горада гартаючы».** |
| 15.00 — 17.00 | **Фінал рэспубліканскага творчага конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка», прысвечанага 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.** |
| 12.00 — 17.00 | Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт *(вул. Стралецкая, 4)*<br>**Навукова-асветніцкая канферэнцыя «Полацкія чытанні».** |
| 17.00 — 18.00 | Канцэртная зала Сафійскага сабора *(вул. Замкавая, 1)*<br>**Канцэрт еўрапейскай музыкі XVI — XVIII стст. у выкананні ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле».** |
| 18.00 — 18.30 | Ля Сафійскага сабора *(вул. Замкавая, 1)*<br>**Урачыстае адкрыццё памятнага знака «Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці».** |
| 18.30 — 19.00 | Сафійскі сабор *(вул. Замкавая, 1)*<br>**Урачыстае адкрыццё культурна-мастацкага праекта «Тры Сафіі: Сафія Кіеўская, Сафія Наўгародская, Сафія Полацкая».** |
| 20.00 — 22.00 | Плошча Свабоды<br>**Урачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства.**<br>**Мастацка-тэатралізаваная дзея «Беларускі шлях» з удзелам Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь, майстроў мастацтваў і самадзейных калектываў. Лазернае шоу.** |
| 11.00 — 20.00 | Плошча Францыска Скарыны<br>ФЕСТЫВАЛЬ КНІГІ І ПРЭСЫ<br>**Павільёны:**<br>**«Кнігі і прэса Рэспублікі Беларусь»** (лепшыя выданні мастацкай і вучэбнай кнігі, кнігі для дзяцей і юнацтва, энцыклапедычная літаратура, альбомы, экспазіцыя перыядычных выданняў установы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Рэдакцыя газеты "Советская Белоруссия"», РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"»);<br>**«Слова пісьменніка»** (прэзентацыі, аўтограф-сесіі);<br>**«Добрая кніга — дзецям»** (дзіцячая пляцоўка);<br>**«Друкарскі двор XVI стагоддзя».**<br>Праекты:<br>**да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання;**<br>**кнігі пісьменнікаў-юбіляраў Я. Купалы, Я. Коласа, П. Панчанкі, М. Стральцова і інш.;**<br>**кнігі — пераможцы Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў «Мастацтва кнігі»;**<br>**«Да 100-годдзя "Полацкага весніка"», «СМІ Віцебшчыны».**<br>Прэзентацыя выставачнага праекта **«Янка Купала. 135».** Правядзенне грамадска-культурнай акцыі «Чытаем Купалу разам».<br>**Выстаўка, прысвечаная 135-годдзю Якуба Коласа.** Прэзентацыя перакладу на рускую мову паэмы «Сымон-музыка».<br>**Святочны гандаль кнігай.** |




*Фота Анатоля Клешчука.*

*Знак «Геаграфічны цэнтр Еўропы» ў Полацку.*

| | |
|---|---|
| 11.00 — 20.00 | Полацкі гарадскі палац культуры *(вул. Гогаля, 15)*<br>**Выстаўка выданняў з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, прысвечаных Ф. Скарыну.**<br>Выставачны праект **«Жыццё ў слове…»,** прысвечаны гісторыі беларускага і сусветнага кнігадрукавання. |
| 12.00 — 13.00 | Стацыянарная выстаўка «Прагулка па Ніжне-Пакроўскай» (Домік Пятра I) *(вул. Ніжне-Пакроўская, 33).*<br>Выстаўка аднаго дня **«Полацк на памятных манетах Рэспублікі Беларусь».** |
| 14.00 — 18.00 | Ля памятнага знака «Полацк — геаграфічны цэнтр Еўропы» *(пр. Ф. Скарыны)*<br>Літаратурнае свята «Мая Полаччына». |
| 14.30 — 15.30 | Мастацкая галерэя *(вул. Стралецкая, 4А-4)*<br>Адкрыццё выстаўкі<br>**«Полацк у гравюрах сучасных мастакоў».** |
| 14.00 — 14.30 | Музей беларускага кнігадрукавання<br>**Прэзентацыя кнігі Ф. Скарыны «Малая падарожная кніжка»** з кнігазбору «Белгазпрамбанка». |
| 14.30 — 15.00 | Адкрыццё выстаўкі **«Люду посполитому к доброму научению»** (Псалтыры з музейных і кніжных збораў Беларусі). |
| 16.00 — 17.30 | **«Музычная старонка»:** выступленне камернага аркестра «Еўропа-Цэнтр». |
| 10.00 — 19.00 | Ля помніка Сімяона Полацкага<br>Канцэрт-прэзентацыя «Народныя таленты Віцебшчыны». |
| 10.00 — 20.00 | Алея па пр. Ф. Скарыны *(ад плошчы Свабоды да плошчы Францыска Скарыны)*<br>**Праект «Майстры Прыдзвінскага краю».** |
| 10.00 — 20.00 | Вул. Гогаля, пр. Францыска Скарыны<br>Праект «Віцебскія панадворкі».<br>Кірмаш беларускіх прадпрыемстваў. |
| 12.00 — 20.00 | Паркавая зона Кургана Бессмяротнасці<br>Свята-фэст сярэдневяковай культуры «Рубон». |
| 12.00 — 20.00 | Алея па пр. Ф. Скарыны<br>Праект «Вулічныя музыкі» |
| 23.30 — 02.30 | Плошча Свабоды<br>Праект «Танцуючы горад» (маладзёжная дыскатэка). |

## 3 верасня

| | |
|---|---|
| 08.30 — 10.00 | Богаяўленскі сабор *(вул. Ніжне-Пакроўская, 24)*<br>Божая літургія. Пасадка Саду Малітвы. |
| 10.00 — 12.00 | Ля помніка Сімяона Полацкага<br>Канцэрт-прэзентацыя «Народныя таленты Віцебшчыны». |
| 11.00 — 12.30 | Плошча Свабоды<br>**Рэспубліканская грамадзянска-патрыятычная акцыя «Мы — разам!».** |
| 12.00 — 12.20 | Ля будынка ЗВЭС *(пр-т Ф. Скарыны, 32)*<br>**Гашэнне маркі і паштовага канверта,** прысвечаных Дню беларускага пісьменства ў Полацку. |
| 13.00 — 14.00 | Плошча Свабоды<br>**Уручэнне Нацыянальнай літаратурнай прэміі.** |
| 14.00 — 14.30 | Плошча Свабоды<br>**Урачыстая цырымонія перадачы эстафеты Дня беларускага пісьменства гораду Іванава.** |
| 14.30-16.00 | Плошча Свабоды<br>**Літаратурна-музычная праграма «Як на свет радзіўся Янка»** па матывах рок-оперы «Курган». |
| 16.00 — 17.30 | Плошча Свабоды<br>**Літаратурна-музычная праграма «Пісьменнікі — землякам».** Прэзентацыя аўдыёдыска «Душой Скарыны ўзлашчаные слова». |
| 10.00 — 18.00 | Плошча Францыска Скарыны<br>ФЕСТЫВАЛЬ КНІГІ І ПРЭСЫ<br>Павільёны:<br>**«Кнігі і прэса Рэспублікі Беларусь».**<br>**«Слова пісьменніка»** (прэзентацыі, аўтограф-сесіі);<br>**«Добрая кніга — дзецям»** (дзіцячая пляцоўка);<br>**«Друкарскі двор XVI стагоддзя».**<br>Праекты:<br>**да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання;**<br>**кнігі пісьменнікаў-юбіляраў Я. Купалы, Я. Коласа, П Панчанкі, М. Стральцова і інш.**<br>**кнігі — пераможцы Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў «Мастацтва кнігі».**<br>**«Да 100-годдзя "Полацкага весніка"», «СМІ Віцебшчыны».**<br>Прэзентацыя выставачнага праекта<br>**«Янка Купала. 135».** |
| 11.00 — 20.00 | Зялёная пляцоўка ля помніка Р. І. Кандрацэнку<br>Выстаўка «Горад у макетах». |
| 12.00 — 13.00 | Стацыянарная выстаўка «Прагулка па Ніжне-Пакроўскай» (Домік Пятра I) *(вул. Ніжне-Пакроўская, 33)*<br>Выстаўка аднаго дня. **Прэзентацыя серыі памятных манет Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь «Шлях Скарыны».** |
| 13.00 — 14.30 | Глядзельная зала Полацкага каледжа Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава *(вул. Е. Полацкай, 26)*<br>Паказ монаспектакля **«Беларусь. Дыдактыка»** Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. |
| 17.00 — 19.30 | Полацкі гарадскі палац культуры *(вул. Гогаля, 15)*<br>**Адкрыццё тэатральнай залы гарадскога Палаца культуры.**<br>**Прэм'ера спектакля Веры Кісялёвай «Легенда пра Усяслава Полацкага».** |
| 15.00 — 16.00 | Канцэртная зала Сафійскага сабора *(вул. Замкавая, 1)*<br>**Прэм'ера сюіты Ганны Кароткінай «Францыск Скарына»** ў выкананні Ксеніі Пагарэлай. |
| 10.00 — 17.00 | Полацкі гарадскі палац культуры *(вул. Гогаля, 15)*<br>Выстаўка выданняў з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, прысвечаных Ф. Скарыну.<br>Выставачны праект «Жыццё ў слове…», прысвечаны гісторыі беларускага і сусветнага кнігадрукавання. |
| 10.00 — 17.00 | Музей беларускага кнігадрукавання<br>**Выстаўкі:**<br>**«Люду посполитому к доброму научению»** (Псалтыры з музейных і кніжных збораў Беларусі); **«Малая падарожная кніжка».** |
| 12.00 — 14.30 | Паркавая зона Кургана Бессмяротнасці<br>**Свята-фэст сярэдневяковай культуры «Рубон».** |
| 10.00 — 18.00 | Вул. Гогаля, пр. Францыска Скарыны<br>Праект «Віцебскія панадворкі».<br>Кірмаш беларускіх прадпрыемстваў. |
| 11.00 — 18.00 | Алея па пр. Ф. Скарыны<br>Праект «Майстры Прыдзвінскага краю». |
| 12.00 — 18.00 | Праект «Вулічныя музыкі». |
| 14.00 — 18.00 | Ля памятнага знака «Полацк — геаграфічны цэнтр Еўропы» (пр. Ф. Скарыны)<br>Літаратурнае свята «Мая Полаччына». |
| 12.00 — 15.00 | Музей беларускага кнігадрукавання<br>Прэзентацыя турыстычнага патэнцыялу Віцебскага рэгіёна «Віцебшчына турыстычная запрашае…». |
| 20.00 — 22.00 | Плошча Свабоды<br>Канцэрт майстроў мастацтваў. |

# ШТО ЁСЦЬ НА КАРЦЕ?




**1.** **Сафійскі сабор.**

**2.** **Барысаў камень.**

**3.** **Спаса-Ефрасіннеўскі стаўрапігіяльны жаночы манастыр г. Полацка:**

**I.** **Крыжаўздвіжанскі сабор.**

**II.** **Спаса-Праабражэнская царква.**

**III.** **Трапезная (цёплая царква).**

**IV.** **Брама-званіца з манастырскім корпусам.**

**4.** **Чырвоны мост.**

**5.** **Музей традыцыйнага ткацтва Паазер'я.**

**6.** **Помнік прападобнай Ефрасінні Полацкай.**

**7.** **Будынак Полацкага езуіцкага калегіума (цяпер — корпус Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта).**

**8.** **Помнік крывічам.**

**9.** **Мастацкая галерэя.**

**10.** **Лютэранская кірха (цяпер — Краязнаўчы музей).**

**11.** **Плошча Свабоды (былая Парадная, Корпусная).**

**12.** **Полацкі райвыканкам (корпус № 2).**

**13.** **Цэнтр нацыянальных культур і рамёстваў.**

**14.** **Богаяўленскі кафедральны сабор.**

**15.** **Музей беларускага кнігадрукавання. Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага.**

**16.** **Помнік Сімяону Полацкаму.**

**17.** **Кінатэатр «Радзіма».**

**18.** **Помнік 23-м гвардзейцам-грыгор'еўцам.**

**19.** **Дзіцячы музей.**

**20.** **Помнік Францыску Скарыну.**

**21.** **Гасцінічны комплекс «Славянскі».**

**22.** **Памятны знак «Ў» (алея пр-та Францыска Скарыны).**

**23.** **Памятны знак «Полацк — геаграфічны цэнтр Еўропы» (пр-т Францыска Скарыны).**

*Культурны ракурс*

## Янаў, Іванава: наступны прыпынак




Горад Іванава — сталіца наступнага Дня беларускага пісьменства. З гэтым палескім кутком звязаны імёны многіх выбітных людзей. Прынамсі, з вёскай Дастоева — імя класіка рускай літаратуры Фёдара Дастаеўскага. Пяць стагоддзяў таму князь Фёдар Іванавіч Яраславіч падарыў баярыну Данілу Ірцішаву маёнтак паблізу вёсачкі Дастоева і непадалёк Янава-Палескага. Цяпер пра назву гэтага мястэчка нагадвае толькі чыгуначная станцыя, а сам Янаў перайменавалі ў Іванава — адзін з найутульнейшых раённых цэнтраў на Брэстчыне. А Дастоева, якое дало прозвішча дзецям Данілы Іванавіча, сваю назву захавала. І дакладна ўстаноўлена: менавіта адгэтуль ідуць карані радаводу пісьменніка Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага.

Больш як 25 гадоў таму ў Дастоеўскай сярэдняй школе стварылі літаратурна-краязнаўчы музей геніяльнага творцы, які налічвае звыш 3000 экспанатаў. У 2011 годзе, падчас святкавання 190-годдзя з дня нараджэння пісьменніка, была абноўлена экспазіцыя, а скарбонка музейных экспанатаў значна папоўнілася.

За 18 кіламетраў заходней Іванава знаходзіцца вёска Варацэвічы, радзіма вядомага кампазітара, піяніста і мастака Напалеона Орды, помнік якому ўсталявалі ў цэнтры Іванава ў 1997 годзе. Манумент размешчаны ў маляўнічым месцы, а непадалёк яго — ніцая вярба, якая сімвалізуе ўклад гэтага незвычайнага чалавека ў мастацкую спадчыну Беларусі.

Вялікага сына беларускай зямлі стварыў у бронзе скульптар Ігар Голубеў. Манумент выглядае арыгінальна: прысеўшы на пень, праслаўлены жывапісец цалкам захоплены задумай чарговага цудоўнага пейзажу, эскіз якога ўжо ёсць на паперы. Мастак падаецца такім жывым, нібы глядзіць на нас з вамі.

Лёс Напалеона Орды цесна звязаны не толькі з Беларуссю, але і з іншымі краінамі Еўропы. Дзякуючы яму, мы можам убачыць, няхай нават толькі на карцінах, як выглядалі раскошныя палацы і сядзібы мінуўшчыны, якія, на жаль, не захаваліся да нашага часу.

Напалеон Орда памёр у Варшаве і, у адпаведнасці з завяшчаннем, быў пахаваны на старажытных каталіцкіх могілках у радавым склепе ў Іванаве. Яго магіла цудам захавалася пры зносе пахаванняў, яна пазначана памятнай плітой.

Сёння цяжка ўявіць, што імя вялікага мастака, шырока вядомае ў Еўропе, у Беларусі яшчэ не так даўно было ў глыбокім забыцці. А цяпер у Варацэвічах створаны музейны комплекс: працуюць карцінная галерэя і музей Напалеона Орды. Побач, ва ўрочышчы Чырвоны Двор, на старадаўнім падмурку вядзецца ўзнаўленне сядзібнага дома Ордаў.

**Аляксандр МАРКАЎ**

Выходзіць з 1932 года
16 +
Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»
Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by
Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка
Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк
31.08.2017 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1643.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Заказ — 3365
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686